літаратурныя вечары, абмяркоўваюць вершы, раманы, п'есы. Праводзяцца семінары, нарады, паседжанні...

— Ого, гэтага ў іх хапае, — усміхнуўся Драздовіч. — Поўныя папкі пратаколаў і паўпустыя свірны, вясною да свінарніка не падысці, патрэбна лодка... як і ў нашай трынаццатай брыгадзе, дзе мы зараз з табою былі... Гэтая брыгада складаецца з далучанага да нас нядаўна калгаса «Прамень»...

Да іх падышлі загадчык фермы, заатэхнік і даярка.

— Вы нас шукалі? — запытаўся загадчык фермы.

— Шукаў, — адказаў Драздовіч. — Можа, мне скажаце, загадчык, чаму ў вашай брыгадзе не павялічваецца надой малака?

— Паша дрэнная, — адказаў ён.

— А што скажа заатэхнік? — спытаўся Драздовіч.

— Каровы нікуды не вартыя, — унурыў галаву заатэхнік.

— І даярка так думае? — звярнуўся да жанчыны Драздовіч.

— Не, — адказала Настася і дадала: — Таму, што ў нас загадчык фермы разгірэка...

Усе здзіўлена паглядзелі на яе.

— Як гэта? — спытаў Драздовіч.

— А так, — тлумачыла Настася, — адной нагой стаіць ва ўласным агародзе, а другой — у грамадскай гаспадарцы...

— Правільна! — засмяяўся Драздовіч, а потым рашуча дадаў: — Дык з сённяшняга дня, Настася, ты будзеш загадчыцай фермы... — Драздовіч звярнуўся да заатэхніка: — Родам я, як вам вядома, з вёскі Папялішчы, дзе цяпер цэнтр нашага калгаса. Дрэнна да рэвалюцыі жылі тут людзі. Вось неяк сяляне надумалі арганізаваць малочную ферму, з гэтай мэтай запрасілі з мястэчка ветэрынара, які ўзначаліў новую справу. Прайшло некалькі месяцаў, і звычайныя сялянскія каровы ў два, а некаторыя і ў тры разы сталі даваць больш малака. Убачыў гэта памешчык і перавабіў ветэрынара да сябе. А такога заатэхніка, як вы, памешчык прагнаў бы.

— Выходзіць, што мне трэба падаць заяву аб звальненні? — спытаўся заатэхнік.

— А гэта няхай вырашае загадчыца фермы, — адказаў Драздовіч. — Паглядзім, якая яна гаспадыня.

— Так, падавайце, вам у нас няма чаго рабіць, — адказала Настася.

— Мой стыль! — гаворачы да Настасі, але каб пачуў Басалыга, задаволена вымавіў Драздовіч.

Настася пайшла, а за ёю папляліся былыя загадчык фермы і заатэхнік.

— Дык на чым мы спыніліся? — спытаў Драздовіч.

— Калгас «Чырвоны араты» праз некалькі год не толькі вас дагоніць, але можа і перагнаць, — сказаў Басалыга.

— Дудкі! — аж прастагнаў Драздовіч.

—Гэта будзе, — падбіваў Басалыга.

— У мяне адных толькі грузавых машын больш дзесятка.

— Машыны — справа набыўная. А між іншым, яны далёка не заўсёды ў поўную меру выкарыстоўваюцца. Тэхніка для таго і ствараецца, каб палегчыць цяжкую працу селяніна.

— Я гэта і раблю, — думаў услых Драздовіч. — Нядрэнна было б займець сваю МТС, хопіць у нас работы...

— Во, во! Сваю МТС. Кулацкія настроі...

— Што-о? — аж затросся Драздовіч. — Ён мяне ловіць на слове?! Вы, галубчык, ведаеце пра кулакоў з кніг, а гэта зусім не тое, што з імі было сутыкацца. Памятаю, на Шклоўшчыне прыязджаю забіраць кулака. Ну, зразумела, абшукалі, знайшлі вінтоўку. Не паспеў я аглядзецца, як ён за сякеру і гах па руцэ, адсек усё запясце. «Навошта вы гэта зрабілі?» — пытаюся. А ён, скрыгануўшы зубамі, адказвае: «А гэта ёй пакаранне за тое, што яна, калі вы сюды прыехалі, здрыганула і не звяла вас са свету». От яно як! — Драздовіч растлумачыў: — Для абслугоўвання нашага калгаса патрэбна спецыяльная МТС, замацуй яе за намі, зусім іншая будзе рахуба. Вось у якім сэнсе свая... — Стары падумаў. — Прыйдзецца вам, галубчык, нас пакінуць... Тут вам няма чаму вучыцца, вы самі пачынаеце «вучыць»... Калі хочаце ехаць, сёння ці заўтра... машыну я вам дам...

— Прабачце, Барыс Ніканоравіч, але калгас «Новы свет» не ваша вотчына і вы тут не гаспадарчык, — ледзь стрымліваючы сябе, гаварыў Басалыга. — Мяне сюды прыслала партыя...

— Стажорам. А стажор, па Ушакову, — асоба, якая набывае практычны вопыт, — вучыцца, а не вучыць. Не-е, вам...

— Васіль Антонавіч, — падказаў хлопец.

— Вам... Басалыга, яшчэ шмат чаго не хапае, каб быць добрым старшынёю калгаса.

— Гэта правільна. Для таго я і прыехаў да вас, каб вучыцца.

— А выходзіць, што навучэнец ужо вышэй за настаўніка.

— Пакуль не. Але так павінна быць. Закон жыцця. Мы зямное жыццё пераробім!

— Ну і стрэмка! — памякчэў Драздовіч.

— Што вы сказалі? — перапытаў Басалыга.

— А так, — ухіліўся ад адказу Драздовіч і, падумаўшы, спытаўся: — А з-за чаго вы надоечы пасварыліся са старшынёю райвыканкома Невяроўскім?

— Я сказаў, што раней у воласці былі: старшыня, пісар, ураднік і поп, а цяпер у адным толькі райвыканкоме (праўда, раён большую займае тэрыторыю, чым воласць) працуюць дзесяткі людзей, ім няма чаго рабіць, — таўкуць у ступе ваду... Прасядзець дзень на прыёме — не жартачкі.

— А ён?

— Ваша, стажор, справа цялячая — пад'еў і ў хлеў... Не вялікі вы асэсар... У мяне розныя райзагі па тыдню дабіваюцца на прыём...

— А вы?

— Не ведаў, кажу, што сям-там у нас за сталамі яшчэ сядзяць жывёліны...

Драздовіч зарагатаў. Ён не любіў Невяроўскага, а пра Басалыгу падумаў: «Васцёр!» Яны вярталіся па другой дарозе, некаторы час ішлі моўчкі: «А можа, будзе з яго толк?»

— Ну добра, а калі б, скажам, заўтра вас выбралі старшынёю такога калгаса, як «Новы свет», дык з чаго вы распачалі б работу? — парушыў цішыню Драздовіч.

— Я пачаў бы з выкарчоўкі ўсяго старога, — адказаў Басалыга.

— Што гэта значыць?

— Эканамічна такі калгас, як «Новы свет», моцны, але людзі ўсё яшчэ жывуць у брудзе мінулага, — разважаў Басалыга. — Яны церпяць ваша «ячаства»... А яно зусім вам не да твару...

— Што вы яшчэ мне скажаце? — нерваваўся Драздовіч.

— Многае, калі толькі ў вас хопіць сілы мяне выслухаць, — адказаў Басалыга.

— Давайце! — блiснуў вачыма Драздовiч.

— Памятаеце, з раёна я прывёз вам паперку, у якой прапанавалася з'явiцца на нараду ўсiм старшыням калгасаў i даяркам. Калi б паслаць ад нас толькi даярак, дык набралася б iх каля дзесятка. Бясспрэчна, што было б неразумным адрываць ад работы гэтульк i людзей. Але навошта вы распараджаецеся сакратаром партарганiзацыi, пасылаючы яго на гэтую нараду? Вы нават не запыталiся ў сакратара, цi выпадае яму ехаць, можа, у яго якая другая была работа? — Басалыга падумаў. — Гаспадарка «Новага свету» многагалiновая, вы ўсяго не паспяваеце ахапiць, актыву ў вас мала, — ён ёсць, але не прыцягнуты да работы.

— А хто ў гэтым вiнен? Партыйная арганiзацыя. Яна мне мала ў чым дапамагае.

— Вы з ёю не заўсёды лiчыцеся... Вы часам забываеце, што вы толькi слуга народа, а не камандзiр...

— Цiкава! — Драздовiч сам сабе iранiчна падумаў: «Глядзi ты, якi свежы вецер».

— Зноў жа спецыялiсты... Яны скаваны ў сваёй дзейнасцi.

— Э, што вы гаворыце, многiя з iх — што ўбiў, тое i ўехаў, як гэты заатэхнiк...

— Таму, што глушыцца iх iнiцыятыва, дый каму ахвота пачуць: «Прыйдзецца, галубчык, нас пакiнуць... машыну я вам дам...» Не ўсякi адмовiцца ад такой ласкавасцi, — гаварыў Басалыга. — А якую дапамогу маглi б сваiмi парадамi аказаць старыя, а вы на iх махнулi рукою... Добры кiраўнiк той, што ўмее ўсiх людзей прыстасаваць да карыснай працы... Зноў жа моладзь — гэта вялiкая сiла... а яна далёка не выкарыстоўваецца... Чаму б, скажам, не ўзяцца за нашы дарогi, выбрукаваць iх, абсадзiць дрэвамi?..

— Годзе! — перапынiў Драздовiч.

Яны далей iшлi моўчкi, спадылба паглядаючы адзiн на аднаго. «Гэты свежы вецер можа галаву набок скруцiць», — падумаў стары. На выгане пасвiлiся каровы. Абодва спынiлiся. Прыемна было глядзець на дагледжаны калгасны статак; жывёла ўжо вылiняла i аж блiшчала. Погляд Драздовiча як бы гаварыў: «факты — упартая рэч. Вось ён, вынiк майго гаспадарання». А Басалыга, успомнiўшы размову з аграномам, падумаў: «Больш карысцi было б трымаць кароў у стойлах. Колькi вазоў мурожнага сена маглi б даць гэтыя паплавы? Якой

бы ні была добрай гаспадарка, але далёка не ўсе магчымасці выкарыстаны, яе можна значна палепшыць».
У гэты час замітусілася жывёла, схапіліся ўрожкі мажны бык з бычком-пералеткам; на паспеў падбегчы пастух, каб іх разагнаць, як бык здужаў пералетка. Пераможца, схіліўшы набок галаву, каб падчапіць рогам, пагнаўся за свавольнікам, але ўвішны пералетак спрытна адскочыў і, апусціўшы галаву, зароў, ускідаючы капытамі зямлю, нібы зноў выклікаў на паядынак. Пастух ляснуў даўжэразнаю пугаю і пайшоў завярнуць кароў, якія сляпіцай лезлі ў канюшыну.

Апошнія некалькі гоней Драздовіч і Басалыга ішлі да сядзібы калгаса «Новы свет», не глянуўшы адзін на аднаго. Драздовіч думаў: «Ці ведаеш ты, галубчык, колькі патрачана сілы і энергіі, каб калгас «Новы свет» стаў такім, якім ён ёсць сёння? Шмат хто лічыць, што ў нас усё ішло гладка, як па масле. У «Новым свеце» ўстаноўлен жорсткі кантроль за выкананнем заданняў, мы неміласэрныя да бракаробаў, гультаёў і абібокаў, бязлітасна б'ём за нядобрасумленнае стаўленне да працы, — дарога наша да поспехаў не зусім гладкая». Разам з тым, Драздовіч адчуваў нейкі новы прыліў энергіі, жаданне яшчэ лепш працаваць, дабіцца яшчэ большых поспехаў. І ў Басалыгі мроіліся думкі, адна другую пераганяючы: «Няўжо стары мяне не зразумее, — не вораг я яму, а шчыры сябра. От каб мяне кінулі тут на некалькі год папрацаваць, мы ўдвух зрабілі б калгас непазнавальным!»

Парыла. З паўднёвага захаду веяў лёгкі ветрык. Па нсбе чародамі плавалі свінцовыя хмары.

* * *

Увайшоўшы ў вёску Папялішчы, цэнтр калгаса «Новы свет», Драздовіч, не развітаўшыся, цяжка ступаючы, пайшоў у напрамку да праўлення. Яму хацелася пабыць аднаму, але ля канторы стаяла легкавая машына (нехта прыехаў), трэба было ісці туды. У Драздовіча не адыходзіла злосць. «Я даваяду гэтаму малакасосу, пакажу, як трэба працаваць! Вучыць мяне надумаўся?!» А Басалыга, пазнаўшы, што стаіць машына старшыні райвыканкома Невяроўскага, не жадаючы з ім сустракацца, накіраваўся да сваей кватэры. Хлопец шкадаваў, што яму не ўдалося ўсё выказаць старшыні калгаса. «Драздо-

віч — хітры мужык, шмат яшчэ можа зрабіць карыснага, але недарма ён загаварыў пра Чапаева, яму сапраўды патрэбен Фурманаў. Бяда старога, што ён не мае добрага памочніка, які мог бы заўсёды сказаць праўду ў вочы. Стары стаў траціць пачуццё меры, хоць і знаходзіцца ў гушчы народа, але пачаў адрывацца ад яго. А новы час патрабуе і новых кіраўнікоў».

Драздовіч падышоў да машыны, якая стаяла ў цені пад ніцай бярозаю, і ўважліва пачаў яе разглядаць. Старшыня неабыякавы быў да тэхнікі. Заўважыўшы Драздовіча, Невяроўскі голасна загаварыў:

— А-а-а, Барыс Ніканоравіч, здароў! Я цябе доўга чакаю. Ну, як машына? Гэта ж мяне за лён прэміравалі.

— А ты яго сеяў?! — замест прывітання адрэзаў Драздовіч. — Па-мойму, ты летась пярэчыў супраць нашага плана...

— Прызнаюся, памыліўся, — прабасіў Невяроўскі. Ён быў без шапкі, з паголенай галавою, ад гэтага твар яго здаваўся круглым і нейкім халодным, як месяц.

— Прызнаваць памылкі ты налаўчыўся, але выпраўляць — невялікі ахвотнік, — сказаў Драздовіч і дадаў: — А час патрабуе іншага...

— Што з табою, налятаеш каршуном... — перабіў Невяроўскі. — Не пазнаю... Хто цябе гэтак узлаваў? Пэўна, той вучоны блазан!

Яны прывіталіся. Перад грузным Невяроўскім Драздовіч здаваўся яшчэ больш шчуплым. Прыжмурыўшы глыбока пасаджаныя блакітныя вочы, ён пазіраў знізу ўверх.

— Няўжо ж. Ён калючы, як вожык, голымі рукамі не возьмеш! — паволі гаварыў Драздовіч, скептычна аглядаючы Невяроўскага. — Басалыга наперад глядзіць...

— Чаго ты на мяне так углядаешся? — спытаўся Невяроўскі.

— Нішто сабе акругліўся, — усміхнуўся ў вусы Драздовіч.

У Невяроўскага ўсё выпірала — і ружовы карак з каўняра паўвайсковага гарнітура ахоўнага колеру, і пераціснуты шырокай папругай жывот, і лыткі з ссунутых у гармонік шаўровых халяваў, якія лопнулі ў швах. Дзіўна было, што і вочы, нейкага невыразнага колеру, нібы вылузваліся з арбіт. А што да носа, падобнага

на дулю, дык ён, здавалася, расплыўся на ўвесь твар. І чамусьці ён быў сіні, як сліва.

Невяроўскі з Драздовічам прайшлі і селі на лаўку. Налева ад іх пралягла шырокая і роўная, абсаджаная таполямі вуліца, з абодвух бакоў параскіданы дамы калгаснікаў. Быў выхадны дзень. Па скрыпучых тратуарах чародкамі ішлі гаманлівыя дзяўчаты. Каля праўлення яны спыніліся, мусіць, чакаючы падыходу хлопцаў.

— Куды вы сабраліся? — звярнуўся да іх Драздовіч.

— У «Чырвоны араты» на свята песні, — бойка паведаміла дзяўчына, звеннявая па ільне Марыя Вішнявецкая.

— А чаму б вам у сваім калгасе не арганізаваць хор? — прапанаваў Драздовіч.

— Не ў пашане ў нас культура, — разанула Марыя і пачырванела. Ружовага колеру сукенка вельмі пасавала да яе бялявага твару, быстрых сініх вачэй, тонкага носа, ноздры якога пры дыханні раздзімаліся. Дзяўчына павярнулася: відаць былі дзве тонкія, ніжэй паясніцы, русыя касы з уплеценымі ў іх ружовымі стужкамі.

— Ага, — падтрымала яе кірпаносая, на выгляд падлетак, дзяўчына. — Адно ведаем працаваць.

— А што ж ты думала?.. — павярнулася да яе Марыя. Яна прыгадала некалі сказаныя старшынёю словы: — «З гульняў не есці хлеба...»

Дзяўчаты весела засмяяліся. Адзетыя ў шоўк, у рознакаляровых хусцінках, яны нагадвалі вялікі букет кветак. Чуючы пах парфумы, над імі кружыліся пчолы. Дзяўчаты, палахліва адганяючы іх, шчабяталі, як птушкі.

— Не пускай дзяўчат туды, а то да восені многіх не далічышся, у «Чырвоным аратым» хлопцы зухі, — гаварыў Невяроўскі. — Атрымаецца пасіўны баланс...

— За гэта я не баюся, — усміхнуўся Драздовіч, з гонарам дадаўшы: — За апошнія дзесяць год, галубчык, з «Новага свету» ні адна дзяўчына не выйшла замуж у другі калгас. — Ён паказаў рукою. — Вось і на гэтай вуліцы жыве некалькі прымакоў... Адышла ў нябыт старая прыказка: «Прымачы — хлеб сабачы»... Ахвотна да нас ідуць хлопцы, толькі дзяўчаты вельмі ўжо сталі пераборлівыя...

— Вядома, — згадзілася Марыя. — Яшчэ чаго не хапала, каб абы-каго браць... У нас цяпер дзяўчаты хлопцаў выбіраюць, а не хлопцы дзяўчат...

— А навошта табе аднекуль браць, калі і тут ёсць хлопец, — сказала кірпаносая дзяўчына. — Яшчэ які!

— Хто? — пацікавіўся Драздовіч.

— Басалыга! — выпаліла дзяўчына.

— Вунь што, — расцягнуў Драздовіч.

— Цяпер зразумела, чаму яна такая порсткая, — ціха вымавіў Невяроўскі. — Ёсць на каго абаперціся...

— Ды ўжо ж, — дадаў Драздовіч.

— А ты падвядзі рысу, — параіў Невяроўскі.

— Што гэта значыць? — не зразумеў Драздовіч.

— Ну, перастань браць прымакоў, — хітрыў Невяроўскі.

— А-а-а, — засмяяўся Драздовіч. — Хіба толькі... Але гэта ад нас не залежыць...

Яны некаторы час маўчалі.

— А ці ведаеш ты, што твой стажор за тваёю спінаю надумаўся рабіць? — таямніча загаварыў Невяроўскі. — Званіў з райвыканкома ў Мінск свайму сябру, мастаку, уговорваў таго прыехаць у калгас пісаць твой партрэт... «Угаворым, — кажа, — старога папазіраваць...»

— Што-о? — здзівіўся Драздовіч. — А хто яго аб гэтым прасіў?

— Ну, з цябе пісаць яшчэ туды-сюды, дык і з даярак, і з ільнаводак, і з свінарак, і з цялятніц... Ці ненадоўга толькі ён хоча ў тваім калгасе абсталёўвацца?!

— Цікава, — вымавіў Драздовіч. — Сапраўды, мусіць, ён нешта надумаў рабіць...

— Дзіва! — падхапіў Невяроўскі. — Але, па-мойму, і табе палец у рот не кладзі... «Трэба, — кажа, — простых людзей паказваць у мастацтве... Яны стваральнікі матэрыяльных каштоўнасцей...»

Падышлі хлопцы, а з імі і Басалыга, у шэрым гарнітуры і вышыванай шаўковай з жаўтаватым адценнем беларускай кашулі.

— Дык вось для каго ты вышывала, — усміхнулася кірпаносая дзяўчына, звяртаючыся да Марыі.

— А табе што? — роблена злосным голасам прамовіла Марыя, сама любуючыся сваёй работаю.

— Бачыў ты яго, як ён хутка сваю асабістую справу правярнуў, — іранічна сказаў Невяроўскі. — Спрытнюга!

Драздовіч змаўчаў, але па ўсім відаць было, што гэта яго ўкалола. Ён пабялеў і неяк абмяк, імкнучыся раз-

гадаць, што надумаў рабіць стажор, а таксама куды хіліць Невяроўскі.

— Барыс Нікanoравіч! — выгукнуў Басалыга. — Заданне ніякага не будзе ў «Чырвоным аратым»? Вы нечага збіраліся іх наведаць...

— Не, — глуха адказаў Драздовіч, а калі моладзь пайшла, прагаварыў: — Пад корань сячэ... Марыя — лепшы ільнавод... важак моладзі...

— А ты яе прабяры...

Драздовіч маўчаў. Ён сядзеў задумаўшыся, відаць, у яго ішла нейкая ўнутраная барацьба. Драздовіч да таго ўвайшоў у самога сябе, што забыўся на прысутнасць Невяроўскага і ўголас прамовіў: — Што далей, то тужэй завязваюцца вузлы... Паглядзім, што з гэтага атрымаецца?

— Гані ты вон з калгаса гэтага выскачку! — параіў Невяроўскі.

— Га? — нібы прачнуўся Драздовіч. — Што ты сказаў?

— Не падабаецца мне гэты лайдак. Наровіць з часам у «Новым свеце» старшынстваваць. Няхай туды ідзе, дзе справа не наладжана, і там сябе паказвае. — Невяроўскі перамяніў тон. — Ніколі я табе не гаварыў, а цяпер мушу сказаць: ты мудры чалавек. Але падняць на такую вышыню калгас, а пасля перадаць гэтаму фарсуну... Кіраўніцтва раёна заўсёды на тваім баку. Старую кадру не дамо ў крыўду!

— А ён і табе наступіў на мазоль?

— Мне — не, а вось пад цябе падкопваецца.

— Адкуль табе вядома?

— Нутром адчуваю. Дзеля чаго ён пайшоў з моладдзю? Каб паддобрыцца, хіба ён не ведае, што яна — сіла? У яго вока сквапнае, — прыйшоўшы на ўсё гатовае, кожны можа гаспадарыць.

— Аднак ты не вельмі рвешся.

— Чаму ты сёння такі калючы?

— Скажы, чаго ты сюды прыехаў? — нібы не пачуўшы, спытаў Драздовіч і дадаў: — Каб заўтра ў райкоме сказаць, што ты нават у выхадныя дні займаешся кіраўніцтвам, бываеш у калгасах. Але ж гэта не так, табе захацелася адпачыць, поўная машына вудаў. Дык едзь сваёй дарогай і не тлумі мне галавы, яна і так баліць. А можа, які-небудзь іншы інтэрас маеш, цябе сам чорт не разбярэ.

— Не ведаў я, што ты такі дробязны чалавек, — загарачыўся Невяроўскі. — Вуды ўбачыў... Я толькі на часіну выскачыў...

— Хоць на дзве, якая мне да гэтага справа, — перабіў яго Драздовіч. — Кожны чалавек па-свойму скарыстоўвае свой вольны час...

— Я з табою сур'ёзна хацеў пагаварыць, а ты ніяк не даешся. Ды і шпількі твае дарэмныя: мяне не доймеш.

— Ого, ты цвердаскуры.

— Што гэта ўсё значыць? — пабарвавеў Невяроўскі, а потым усё ж стрымаўся і хітра загаварыў: — Я заехаў цябе папярэдзіць, што над табою навісла навала: гэты бойкі малады чалавек у райкоме ў прысутнасці прадстаўніка ЦК нагаворваў, што табе патрэбна падпора... Дык няўжо ты, як тое струхлелае дрэва, якое можна лёгка абярнуць?! Ды ты, нібы дуб, табе ніякая навальніца не страшна, ты любую справу можаш у цэнтры правярнуць... Ва ўсякім разе на мяне ты можаш спадзявацца, заўсёды падтрымаю...

— Не за гэтым, галубчык, ты сюды прыехаў, — кальнуў вачыма Драздовіч.

— А за чым? — насцеражыўся Невяроўскі.

— Не хочаш ехаць старшынёю ў калгас «Сцяг камунізму», — адрэзаў Драздовіч. — Прагаварыўся сам на сходзе, што ўсёй душою імкнешся працаваць у калгасе, але цябе не адпускаюць з раёна. А калі калгаснікі «Сцяга камунізму» паставілі гэта пытанне перад райкомам, дык ты адмовіўся туды ехаць. Заўтра пленум райкома, напэўна, гэта пытанне будзе пастаўлена, дык ты заехаў, каб я цябе падтрымаў, высунуў кандыдатуру Басалыгі.

— Ты закругліўся?

— Што-о?

— Ну, усё сказаў?

— Пакуль.

— Разумееш, пад мяне падкопваюцца, хочуць выжыць з раёна.

— Хто?

— Ёсць такія. Урэшце, я не маю вопыту.

— Як? Адам Іванавіч! Ты ж аграном. Быў дырэктарам МТС. Табе і карты ў рукі, — Драздовіч перадыхнуў. — Што, хіба шкада пакінуць у Соснах уласны дом, агарод, ганчакоў, машыну?

— Дзеці вучацца, не хочацца іх зрываць.

— У «Сцягу камунізму» будзе дзесяцігодка.
— Чакай, калі яе пабудуюць.
— А ты паскорыш.
— Мяне мучыць задышка.
— Нічога, — глянуў на яго Драздовіч. — От як пахо-дзіш пешшу, згоніш жывот, дык тваю задышку як рукою зніме.
— Павінен табе шчыра сказаць, Барыс Ніканоравіч, што ты жорсткі чалавек.
— О, так, — згадзіўся Драздовіч. — Мне так пада-баецца часам супраць шэрсці пагладзіць якую-небудзь жывёліну...
— Ну, я займеў домік, каб дзеці мелі прытулак, на-садзіў сад, трэба ўпрыгожыць жыццё дамачадцаў, завёў ганчакоў (праўда, не ўсе мае, частка аднаго майго знаё-мага — навуковага супрацоўніка), патрэбен жа і мне адпачынак; набыў машыну, гэта хутчэй для жонкі, а то рознае плявузгалі, нават у «Вожыку» прапісалі, што на службовай ездзіць на базар. Ну, а чым ты жывеш? Што ў цябе галоўнае ў жыцці? Выкладай свае аргументы, калі ты супраць камфорту...
— Барацьба з усім старым, не затрымлівацца на да-сягнутым — вось што ў мяне галоўнае, — Драздовіч сам сабе ўсміхнуўся: ён злавіў сябе на тым, што паўтарае думку Басалыгі, які ўвесь час не выходзіў з галавы, і да-даў: — Як бачыш, розніца паміж намі вялікая. Ты хо-чаш ствараць сабе «камфорт», а я ад яго адмовіўся, па-кінуў добра абсталяваную кватэру ў сталіцы, нават ра-зышоўся з жонкай — яна не захацела са мною паехаць у калгас. Ты дбаеш пра сябе, а я пра ўсіх. Раю табе добра падумаць...
— Не паеду! — загарачыўся Невяроўскі.
— Дык у мяне з табою няма ніякай гаворкі. Гэта ты адчыніў вароты?
— Я. А што?
— То зачыні, галубчык, іх з таго боку.
— Праганяеш? — усхапіўся Невяроўскі.
— Раней у нас казалі: глухому дзвюх абедняў не слу-жаць, — Драздовіч устаў.
— Пакуль што я кіраўнік раёна і знаходжуся на ўве-ранай мне тэрыторыі...
— Гэтая зямля дзяржавай навечна замацавана за калгасам, — гаварыў Драздовіч. — Яго ўладары даве-рылі мне... — Стары не скончыў думкі, рэзка падняў ру-

ку: — Прашу, галубчык, да мяне з рознымі сваімі камбінацыямі не прыязджаць!

— До-о-бра! — працадзіў праз зубы Невяроўскі. — Я табе гэтага не дарую. Дробны ты чалавечак!

— Які ўжо ёсць, — усміхнуўся Драздовіч. — Хоць нядаўна я ў цябе быў мудрым чалавекам... Добра, што я магу разбіраць, дзе праўда, а дзе падлізніцтва...

— Бывай! — не вытрымаў Невяроўскі.

— Гладкай дарогі!

Загуў матор, задрыжала машына і рэзка скранулася з месца. Вадзіцель, нібы яго падганяў гаспадар, спрытна вывернуў аўтамабіль з варот, прасігналіў і даў газ. Машына імчалася па калгаснай вуліцы, разганяючы курэй, узнімаючы пыл, які ветрам адносіла ўбок. Драздовіч пастаяў, потым зачыніў вароты і паплёўся да свайго дома. «Ну і дзянёк выпаў, вось дык адпачыў!» — горка ўсміхнуўся ён. «Няйначай будзе навальніца, — убачыўшы кучавыя воблакі, падумаў Драздовіч. — Яно не блага было б, каб прайшоў добры дождж». Стары паволі крочыў, трэба было абдумаць, што прынёс сённяшні дзень, а ён жа яшчэ не скончыўся. «Бываюць дні, — думаў стары, — якія астаюцца ў памяці на ўсё жыццё». Драздовіч павярнуў налева, на галоўную вуліцу калгаса, яму цяпер хацелася толькі аднаго: хутчэй дабрацца да канапы, прылегчы, заплюшчыўшы вочы, паляжаць, паспрабаваць разабрацца ў тым, што адбылося. «Фантазіраваць! — думаў Драздовіч. — Так, гэта трэба рабіць, каб не апынуцца ў хвасце...»

* * *

Ужо ўзышоўшы на двор, Драздовіч заўважыў, што перамяніўся напрамак ветру, значыць, не мінуць навальніцы. Бліснула маланка, пачуўся моцны кароткі ўдар грому, а потым залапаталі па даху буйныя кроплі дажджу. Драздовіч заспяшаўся на ганак. Нікога з дамашніх у хаце не было, недзе, мусіць, гулялі. «А гэта добра, — падумаў Драздовіч, — можна будзе адчыніць акно». Яны баяліся грому, заўсёды закрывалі комін у печы і нават форткі ў вокнах. Зноў бліснула маланка, пачуўся прыглушаны нарастаючы грукат, які, дасягнуўшы вялікай сілы, паступова заціхаў. Пачаўся лівень, пацяклі раўчукі, сплывала розная труха. Драздовіч глянуў на барометр: ён паказваў «навальнічны нос». Усё ж стары пады-

шоў да акна і стаў адчыняць. Секанўў касы дождж, заліўшы падаконнік, апырскаўшы фіранкі. Пацягнула свежасцю. Прыйшлося зачыніць акно. Шыбы вокнаў былі ўсыпаны дажджавымі кроплямі, якія зігзагамі сцякалі на зямлю. Скалануў вецер у агародчыку яшчэ маладзенькую грушу, упала недаспелая сапяжанка, скацілася з грады і плюхнулася ў поўную вады разору.

Драздовіч адышоўся ад акна і сеў на канапу. Пасярэдзіне сталовай на вялізным дыване стаяў круглы стол, засланы вышытым абрусам, у чахлах — цвёрдыя крэслы, на сцяне цікаў гадзіннік — было без чвэрткі тры гадзіны. У кутку стаяла шмат вазонаў, сярод іх фікус і пальма ўзвышаліся аж да столі. Стары сцягнуў боты і прылёг на канапе, але сон не браў, успомнілася гутарка са стажорам. «Бачыў ты яго, — падумаў Драздовіч, — вучыць пачынае». Ён прыгадаў свой прыезд у Папялішчы адразу пасля вайны. Перад вачыма паўстаў Грамабой, адзіны на ўсю вёску кульгавы конь з кляймом на сцегняку; каня вайскоўцы кінулі на дарозе; уцалела некалькі кароў (на іх вясной аралі), рабы певень і некалькі курэй. Вось і ўся жыўнасць на шэсцьдзесят тры хаты. «Цяпер можна гаварыць — Драздовіч камандуе, — злаваўся стары, — а што мне было рабіць? Прыходзілася на таго-сяго і прыкрыкнуць. Былі такія, што не хацелі выходзіць на работу». А цяпер гаспадарка, ёсць дзе разгарнуцца. Адной толькі ворыўнай зямлі каля трох тысяч гектараў, каля паўтары тысячы буйной рагатай жывёлы, частка пародзістай. Толькі кормных свіней больш за тысячу штук, каля паўтары сотні коней, а колькі птушкі! Сапраўдная шматгалінная гаспадарка. «Кажуць, Драздовічу дзяржава дапамагла, — у думках пярэчыў стары, — ну, добра, галубчыкі, а каму яна не дапамагала, але ў іншых усё гэта ішло як у прорву. Да таго ж, я з дзяржавай поўнасцю разлічыўся». Ну, а людзі, якія за вайну абнасіліся і хадзілі ў лахманах (некаторыя з іх тады чухаючыся выходзілі на работу), цяпер вунь як жывуць, не хочуць купляць якога-небудзь там корту, мультану ці паркалю, а давай ім сукно, шоўк ці шэрсць. Ці ўзяць, скажам, абутак: дзяўчаты дык на іншы і не глянуць, як на мадэльны. А дзе ты яго на ўсіх набярэшся! Вось якія ў Папялішчы адбыліся перамены, а ўсё чагосьці чалавеку не хапае, хочацца яму лепшага. «Хоць гэта, можа, — закон жыцця, — думаў Драздовіч. — Не, мусіць, стажор да мяне падкопваецца. Канечне, не ўсё

яшчэ ў нас даведзена да ладу. Свядомасць людзей адстае... А хіба я сам не ведаю, што свядомасць людзей адстала ў сваім развіцці ад фактычнага іх становішча... Я гэта ўлічу... Я... Вось толькі гэтае чортава «я», каб яго пярун!.. Тут ён мяне падкаваў... Але я (зноў «я», каб яно згарэла!) усё ж не здамся!..» «А чаго яму падкопвацца? — раптам прыйшла старому ў галаву думка. — Мяне не так лёгка абярнуць! А падпора, сапраўды, не пашкодзіла б. Басалыга, відаць, падышоў бы. Колькі работы! Хочацца, каб і ў нас быў узорны парадак. І ён будзе! А што да таго, што ў «Новым свеце» хаты такія ж, як былі сорак год назад, дык гэта ж праўда...»

Ураган утаймоўваўся, чуліся далёкія раскаты грому, ляскатала па жалезнаму даху, ішоў спорны дождж. Драздовіча хіліла на сон. Пакрэктваючы, стары ўстаў, прайшоўся і адчыніў акно. У лужынах падскоквалі бурбалкі. З-за хмар выглянула сонца, на небасхіле акрэслілася вясёлка. Павыбягалі дзеці з хат, па ручаінах паплылі папяровыя і выструганыя з кары караблікі. Драздовіч пацягнуўся, пазяхнуў, вярнуўся да канапы, грузна апусціўся, лёг і неўзабаве моцна заснуў. Ён не чуў, як вярнулася жонка. Яна сумысля бразгала на кухні, каб разбудзіць мужа абедаць, але ён нават не зварухнуўся. Яна трохі пабыла дома і зноў некуды пайшла.

Толькі пад вечар, як вярталася моладзь з «Чырвонага аратага», Драздовіч паварушыўся і, пачуўшы знаёмую мелодыю, хутка ўскочыў і высунуўся з акна. Каторы раз чуў ён гэтую песню, а заўсёды яна кранала за душу, хвалявала, навяваючы думкі аб мінулым. Хлопцы і дзяўчаты не зусім зладжана спявалі:

Ой, бярозы ды сосны —
Мае родныя сёстры,
Ой, шумлівы ты лес малады!
Толькі сэрцам пачую
Тваю песню лясную,
Ды успомню былыя гады.

Асабліва вылучаліся — адзін дзявочы голас, Драздовіч яго пазнаў: званочкам звінела Марыя Вішнявецкая, і хлапцоўскі тэнар, якога стары ніколі не чуў. Паміж імі ішло ці то спаборніцтва, ці то змаганне — не было ніякай зладжанасці. Няўжо гэта Васіль Басалыга салаўём заліваецца? Пры адной толькі думцы аб стажору старшыня нахмурыўся і пасуравеў. Але Драздовічу чамусьці зноў захацелася спаткацца з Басалыгам, пагаварыць, даць

зразумець, што ён, Драздовіч, сам разумее, дзе слабы бок — недастатковая работа з людзьмі. І, разам з тым, стары адчуваў, што ў яго з'явілася патрэба спаткацца з гэтым неспакойным маладым чалавекам. Гэта ж, па сутнасці, Басалыга настроіў па шчырасці пагаварыць з Ададамам Невяроўскім, — успамінаў Драздовіч, — з якім разышліся як у моры караблі. А заўтра ён выступіць на пленуме райкома з крытыкай такіх Невяроўскіх, якія адарваліся ад народа, выставіць патрабаванне ўзмацніць работу ў масах, аднавіць ленінскі прынцып калектыўнага кіраўніцтва. І сам у парадку самакрытыкі скажа, што часамі камандаваў у калгасе і з гэтым трэба рашуча канчаць. Калі моладзь параўнялася з домам старшыні, Драздовіч гукнуў:

— Васіль Антонавіч! Зайдзіце, калі ласка, да мяне.

— Добра.

— Можа б, і ты, Марыйка, заглянула? — прапанаваў Драздовіч.

— Другім разам, Барыс Ніканоравіч, — адмовілася дзяўчына. — Я ўся змокла, трэба пераадзецца.

— Ну, як сабе хочаш.

Па тым, як Марыя капрызна крутнула вострымі плячукамі, спадылба глянула на Басалыгу, Драздовіч здагадаўся, што паміж дзяўчынаю і хлопцам адбылася нейкая спрэчка.

«Ну і ферт! — падумаў Драздовіч. — І ёй паспеў насаліць. А яе не так лёгка вывесці з раўнавагі. З перчыкам малады чалавек. З ім трэба трымаць вуха востра».

Басалыга ў сенцах знарок расшпіліў каўнер вышытай кашулі і засунуў пад пінжак. Ён дакараў сябе, што яе адзеў, бо моцна паспрачаўся з Марыяй — часткова з-за льну, але больш за ўсё з-за старшыні і парадкаў у калгасе, што не скарыстоўваюцца магчымасці, людзі жывуць у старых хатах.

— Добры вечар! — прывітаўся Басалыга.

— Здароў, — адказаў Драздовіч, але зноў перайшоў на «вы». — То што ў вас з Марыяй такое адбылося, што яна не захацела разам зайсці? Раней яна ніколі не абыходзіла нашай хаты...

— Нічога асаблівага, — ухіліўся ад адказу Басалыга і дадаў: — Аднак які вы наглядальны чалавек, псіхолаг...

— Трошкі, — разгладзіў вусы Драздовіч. Ён падышоў да буфета, пастаяў, а потым дастаў бутэльку цынан-

далі, адкаркаваў, паставіў бакалы і сыр з кменам, наліў віно. — От пакуль няма дома старой... Ну, росы цёплыя!

Яны чокнуліся, выпілі і сталі закусваць.

— Сыр з кменам? — здзівіўся Басалыга. — Першы раз бачу. Ну і смачны!

— А як віно? Падабаецца?

— Нішто сабе. Квасок!

— Н-да, — ухмыльнуўся Драздовіч, а потым спытаўся: — Дык як прайшло свята песні?

— Добра.

— А ў каго гэта, галубчык, з нашых хлопцаў такі прыгожы тэнар?

— Прызнацца, не прыслухоўваўся, спявалі — хто ў лес, ■ хто па дровы...

— Ага, па-мойму, тэнар не даваў разгарнуцца сапрана... Можа такое быць?..

— А хто яго ведае...

— Мне здалося, што хлопец, які валодае тэнарам, не вельмі хацеў спяваць у хоры, а хутчэй імкнуўся паказаць сваю перавагу над іншымі...

— Магчыма, — цяжка вымавіў Басалыга. — Ёсць у чалавека такая слабасць — парысавацца... Яна ўласціва і старым і маладым, калі чалавек губляе над сабою кантроль і паблізу няма сапраўднага сябра, які пра гэта сказаў бы яму адкрыта... Чалавек — натура складаная...

— Ого, каб чалавека пазнаць, трэба многа солі з'есці...

— І шмат выпіць віна, — падкалоў Басалыга.

Драздовіч вачыма ўсміхнуўся, потым прадаўжаў размову:

— А за што вы з Марыяй пасварыліся?

— Вырашалі, як далей жыць.

— Цікава, — разліў па бакалах віно Драздовіч. — Аднавілі нашу размову?

— Прыкладна. А толькі адкуль вам вядома?

— Галубчык! Гэта дзяўчына такая, што з-за пустога не надзьмецца. І, канечне, калі загаварылі пра парадкі ў калгасе, мяне абараняла.

— Гарой за вас стаіць.

Яны выпілі і абодва крыху захмялелі.

— Дык ведаеце, чаго я вас паклікаў? — хітра прыжмурыў вочы Драздовіч.

— Не, — пацiснуў плячыма Басалыга.
— Каб сказаць, што аднаму чалавеку не пад сiлу скапаць гару.
— Не разумею.
— Хоць, што гуляць у кошку i мышку, — устаў i прайшоўся па дыване Драздовiч. — Вы чаму-небудзь навучылiся ў нас?
— Многа навучыўся, — лыпаў вачыма Басалыга.
— Як вы глядзiце на тое, каб вам узяць калгас «Сцяг камунiзму»?
Басалыга ўскочыў, хацеў нешта рэзкае сказаць, але стрымаўся.
— Я вам дапамагу, а потым паспаборнiчаем.
— Дзякую, — становiшча госця абавязвала Басалыгу трымацца ў пэўных рамках. — Праўда, у мяне выспявалi iншыя планы.
— Стаць старшынёю «Новага свету»? Ды я сам яшчэ не ўломак!
— Не. Сакратар райкома прапанаваў паставiць пытанне перад ЦК, каб мяне пакiнуць сакратаром партарганiзацыi ў «Новым свеце». Я даў на гэта згоду. Не скапаць гару, а падперцi...
— Гэта дзела! — пасля роздуму загарэўся Драздовiч. — Заўтра еду ў райком, угавару сакратара райкома неадкладна зрабiць перавыбары...
— Сакратара райкома, можа, вы i ўгаворыце, але мяне цяпер нiхто не прымусiць тут астацца, — захвалявашся Басалыга. Ён зашпiлiўся на ўсе гузiкi. — Дзякую за пачастунак!
— Куды вы спяшаецеся, Васiль Антонавiч? Вып'ем яшчэ па бакалу, — прапанаваў збянтэжаны стары. — Прашу вас!
— Не, — наадрэз адмовiўся Басалыга, збiраючыся выходзiць. — Усяго добрага! Больш мае тут нагi не будзе... Нiякая сiла не прымусiць... Скапаць такую гару я не збiраюся... I суседнi з вамi калгас браць не магу...
Стары перагарадзiў яму дарогу:
— Супакойцеся, Васiль Антонавiч, ну чым я вас пакрыўдзiў? Мне проста хацелася, каб вы сталi маiм суседам... Я да вас прыязджаў бы, а вы да мяне.... Раiлiся б, як узняць i адну, i другую гаспадаркi... Да таго ж, з вамi можна i розум патачыць, пафантазiраваць... А калi вы згаджаецеся быць сакратаром партарганiзацыi, тым лепш...

— Я ўжо сказаў, што мяне цяпер ніякая сіла не прымусіць тут астацца, — Басалыга вырваўся і пайшоў за дзверы.

«Ну і характар!» — падумаў Драздовіч.

Стары, праводзячы вачыма хлопца, успомніў пра вышытую кашулю, задаволена ўсміхнуўся і ўголас прамовіў:

— Ёсць такая сіла, галубчык, якая цябе ўціхамірыць... Схіліш галаву перад ёю, ганарлівец!..

У гэты час зазваніў тэлефон.

— Я слухаю! — зняў трубку Драздовіч. — Прывітанне! Чым угнявіў старшыню райвыканкома? Сказаў яму ўсё, што пра яго думаў. Што? Па-мойму, гавaруну Невяроўскаму не месца і ў партыі... Згодзен? Дык у гэтым напрамку і дзейнічай... Як? Затое народ адобрыць... Га? Дрэнна чутно? Нехта перабівае. Дзяўчыначка-галубачка! І не сорамна вам падслухоўваць чужыя размовы? Цяпер чуваць? Вось і добра. Як я гляджу — выбраць Басалыгу сакратаром партарганізацыі? Ты з ім гаварыў пра гэта? Станоўча гляджу, галубчык, а толькі, мусіць, з гэтага нічога не выйдзе... Ага, паспелі пацапацца... Згодзен, што падтрымка была б надзейная. Хоць і нялёгка было б з ім працаваць... Што? Але. Напала каса на камень. А ўсё ж, як той казаў, лепей з разумным згубіць, чым з дурнем знайсці. Разумееш, свежы вецер... Што? Гэта не толькі мне карысна, галубчык, але і табе. Чакай заўтра ад мяне нашатыркі. Ніякай літасці!.. За што? Трэба перабудоўваць усю работу райкома, больш аддаваць увагі людзям, адмовіцца ад кіраўніцтва па тэлефоне. Адным словам, заўтра пагаворым па душах. Што? Райком будзе раіць Басалыгу? Вітаю! Паклікаць яго да тэлефона? Лепей пазвані ў праўленне. Да пабачэння!

У сталовую зайшла жонка, дабрадушна бубнячы, што парушан усталяваны ўклад сям'і. Яна накрывала на стол.

* * *

Змяркалася, запальваліся агні ў дамах. Каля клуба баяніст зайграў «Пераможны вальс». З усіх бакоў хлынула моладзь у напрамку да цэнтра. Заўважыўшы Марыю Вішнявецкую, выйшаў з двара на вуліцу Драздовіч.

Ён спыніў дзяўчыну і хітравата спытаў:

— Кажуць, Марыйка, што ты збіраешся пакідаць нас?

— Як гэта?

— Нібы з Васілём мяркуеце некуды падацца.

— Хто вам сказаў?

— Людзі гавораць, — таямніча паведаміў Драздовіч.

— Нікуды я са свайго калгаса не пайду, — выпаліла Марыя. — А хіба Васіль намераны адсюль перабірацца? Яму нешта раней не хацелася.

— Нешта ж, мусіць, здарылася, што гэтак ірвецца кудысьці.

— Дарэмна, ніхто за ім не пабяжыць!..

— То і я гэтак мяркую... Яшчэ не было ў нас такога выпадку... Хоць, ён вучаны...

— Дык што з таго?! — узняла горда галаву Марыя. — Калі...

Падышла моладзь, і дзяўчына замялася, не дакончыла свае думкі. Усе пайшлі ў клуб, а за імі і Драздовіч, з зайздрасцю паглядаючы на маладых і здаровых юнакоў. Каля іх круціліся падлеткі, яны стараліся быць ветлівымі і далікатнымі, каб часам не далі па карку і не пагналі спаць. Нарэшце прыйшоў Басалыга, адзеты ў цёмнасіні гарнітур, у белай кашулі з гальштукам. Сярод дзяўчат вылучалася Марыя, тонкая, стройная, з густам адзетая. На яе квяцістую сукенку спаўзалі косы. Марыя была жвавай і порсткай, яе, нібы вытачаныя, ногі, здавалася, не маглі стаяць на адным месцы, прасілі танца.

З'яўленне Драздовіча на танцах першы раз за ўсе гады бянтэжыла моладзь, дый стары няёмка сябе адчуваў. Нарэшце ўсё ж баяніст зайграў вальс. Моладзь захапілася музыкай. Дзе ты ўтрымаешся, калі самі ногі танцуюць! Асобна ў кутку даволі зграбна танцавалі дзве дзяўчынкі. Яны пырхалі, як матылькі, а астатнія малыя, як камары, таўкліся на месцы. Мімаволі залюбаваўшыся прастатою танца, натуральнасцю рухаў, ажыўленасцю, Драздовіч сам, паддаўшыся агульнаму настрою, гатоў быў у гэтую хвіліну пайсці танцаваць. Ды толькі ён не ведаў, добра гэта ці блага, што ў гэтулькі год ахапіла яго такая спакуса. «Далей ад граху! — падумаў стары. — А то людзі засмяюць».

Драздовіч заўважыў, што ні Марыя, ні Басалыга не танцавалі. Што б гэта магло значыць? Заўважыўшы погляд старога, дзяўчына адвярнулася, пастаяла крыху, а пасля хутка выбегла за дзверы. Басалыга, сустрэўшыся

са злосным і дакорлівым поглядам Драздовіча, выйшаў за дзяўчынай на двор. Захопленыя танцам, плаўна кружыліся пары. Ніхто, акрамя Драздовіча, не заўважыў, што Марыя і Васіль зніклі. Драздовіч глянуў у акно: дзяўчына з хлопцам аб нечым горача спрачаліся. Васіль узяў пад руку Марыю, але яна вырвалася ад яго і затупала дробнымі крокамі ў напрамку да свайго дома. Васіль у нерашучасці трохі пастаяў, а потым, цяжка ступаючы, пайшоў яе даганяць. «Нічога, мусіць, з гэтага не будзе, — падумаў Драздовіч. — Вельмі ж ужо Марыйка нейкая кволая, колькі той дзяўчыны, з прыгаршчы... Увабраць такога мядзведзя, відаць, ёй такі не па сіле». Пастаяўшы крыху, панаглядаўшы за моладдзю, якая цяпер танцавала польку, забыўшыся пра ўсё на свеце, стары паволі пайшоў дахаты, страціўшы ўсялякую надзею на тое, што ўдасца залыгаць хлопца.

Увайшоўшы ў кватэру і замкнуўшы дзверы, Драздовіч, не запальваючы святла, ціхенька прайшоў у сталовую. Яму здалося, што ў пакоі душна, ён адкрыў фортку і падпёр яе на кручок. Пачуўшы бразганне, жонка спрасонку прамармытала:

— Што ты сёння ніяк не ўпынішся, кладзіся спаць... Ага, каб не забыцца, званілі з райкома, што пленум пачнецца ў дзесяць гадзін. І стажора туды клічуць...

— Добра.

Стары, не спяшаючыся, раздзяваўся. Ён успомніў сказаныя хлопцам на полі словы: «Мы зямное жыццё пераробім!» «Штосьці знаёмае, але дзе і калі я чуў ці чытаў? — намагаўся ўспомніць Драздовіч, наракаючы, што многае стаў забываць. — А-а-а, дык гэта ж Маякоўскі! Вунь яно што!» Яму стала прыемна на душы, што колішняя яго мара стала марай іншых. Такім і саступіць дарогу не страшна. Яны давядуць распачатую справу пераробкі свету да канца. «І ўсё ж, як бы яно там ні было, — думаў стары, — а не хочацца здавацца — ранавата яшчэ ісці ў архіў. Калі па праўдзе сказаць, дык чартоўскі хочацца жыць, працаваць. Але і моладзь пайшла, не нацешышся! А калючы Васіль прымушае думаць, яму мала таго, што ёсць, ён хоча большага. А і сапраўды, хаты ў нас такія, як і сорак год таму назад. Трэба падумаць пра пясчана-вапнавыя блокі. От каб гэта зрабіць, тады і паміраць можна».

З вуліцы даносіўся прыглушаны гоман. Драздовіч падышоў да акна. Ішла пара ў напрамку да клуба. Хло-

пец трымаў дзяўчыну пад руку. Праходзячы каля дома старшыні, маладыя людзі зусім спынілі гаворку. Стары пазнаў іх — гэта былі Марыйка і Васіль. Яны хутка зніклі ў цемры. Потым зноў загаманілі, але слоў нельга было разабраць. «Памірыліся, — падумаў Драздовіч. — Цікава, хто ж з іх перамог?»

Драздовіч прайшоў у спальню, лёг і спрабаваў заснуць, але сон не браў. Ці, можа, таму не спалася, што ён днём прыкархнуў, ці з прычыны падзей, якія адбыліся за дзень? Дрэмлючы, ён бачыў перад сабою Невяроўскага, які зматваў вуды, а рыбы, забаўляючыся, выскоквалі з вады і памахвалі хвастамі... Нарэшце, змогшыся, заснуў. Сніліся розныя сны. То ён бачыў Папялішчы зялёным горадам, дзе радамі выстраіліся белыя камяніцы, усе ў садах... То ён замяніў старшыню райвыканкома Невяроўскага і завёў такія парадкі: адвёў самы лепшы пакой пад рэгістрацыю шлюбаў, упрыгожыў памяшканне гербам і сцягам рэспублікі, диванамі, добрай мэбляй, кветкамі. Нібы вось-вось павінны прыехаць рэгістравацца Басалыга і Марыйка... Нарэшце прыехалі, ён у чорным, яна ў белым убранні, як да шлюбу... Драздовіч, хвалюючыся, надзявае сабе цераз плячо шырокую атласную стужку з чырвоным і зялёным колерам і ўрачыста пытае:

— «Марыя Вішнявецкая, жадаеце вы стаць жонкаю Васіля Басалыгі?»

— «Так», — адказвае яна.

— «Васіль Басалыга, жадаеце вы стаць мужам Марыі Вішнявецкай?»

— «Так», — адказвае ён.

Маладыя, распісаўшыся ў тоўстай, прыгожа аформленай кнізе, цалуюцца. Драздовіч іх віншуе:

— «Жадаю вам шчасця, доўгіх год жыцця і дзетак чараду!»

На гэтым ён прачнуўся, паляжаў з адкрытымі вачыма, чыркнуў запалку, — была гадзіна ночы, — павярнуўся на бок і моцна заснуў.

Доўга ўвечары Марыя і Васіль хадзілі па вуліцах. Абоім карцела патанцаваць, але спрэчка з-за парадкаў у «Новым свеце» не давала спакою.

— Скажы, чаму ты ўцякла з ігрышча? — ідучы побач з дзяўчынаю, спытаў Васіль.

— Я прыйшла ў клуб, каб патанцаваць... Мяне запрашалі на вальс, я ўсім гаварыла, што занята... і асталася

дурніцаю... хлопцы танцуюць і ўсміхаюцца, а ты і ў той бок не глядзіш... Сам гаварыў пра чужое «я», а сваё вунь як беражэш...

— Каб ты ведала, якія ў мяне непрыемнасці, дык гэтак бы са мною не абыходзілася... Мне не хочацца пакідаць «Новы свет», а прыйдзецца... У мяне кошкі душу скрабуць, а яна... Не кахаеш ты мяне...

— Што ты гаворыш? Адумайся, хіба ты не бачыш майго кахання... Свет мне засланіў, яшчэ і насміхаецца... Ужо шушукаюцца і рознае пра нас плявузгаюць...

— Калі па-сапраўднаму кахаеш, — захваляваўся Басалыга, — дык ці згодна будзеш са мною выехаць адсюль?

— А ты мяне па-сапраўднаму кахаеш? — замест адказу спытала Марыя.

— Гэта лішняе пытанне... Без цябе я не змагу жыць, — прызнаўся Басалыга, узяў пад руку дзяўчыну і прыціснуў да сябе. Яна не адхінулася. — Мне з табою гэтак добра...

— А калі так, дык астанешся тут...

— Прымаком?..

— Хоць бы і так...

— Не!.. — рашуча запярэчыў Басалыга. Ён дастаў папяросу і стаў прыкурваць.

— Значыць, па-сапраўднаму не кахаеш, — узяла яго пад руку Марыя.

— Дадуць мне калгас, хоць самы горшы, гэта ж цікава, за год-два паднімем гаспадарку, забудуемся... — марыў Басалыга.

— А чаму тут нельга гэтага зрабіць? Разам будзем будаваць хаціну, хоць чаму хаціну — дом паставім, які ж ты прымак тады?.. Гонар мужчынскі не дазваляе?!. А яшчэ лічыш сябе перадавым чалавекам, а ў самога старое ў галаве.

— Не прыйшоўся я тут да двара... Драздовіч...

— Не разумееш, Васіль, ты гэтага чалавека. Ён усё сваё сэрца аддаў калгасу... Стары цябе і так паверне, і гэтак пакруціць, з усіх бакоў прыглядаецца, ці здольны ты перш быць яго добрым памочнікам, а потым павесці гаспадарку лепей, чым ён... Я гэта па сабе ведаю. Калі я вучылася ў дзесятым класе, аблюбаваўшы мяне, ён паўгода абходжваў, угаворваў астацца ў калгасе. «Зразумей, Марыйка, — казаў ён, — цяпер і ў калгасе павінны быць адукаваныя людзі. Галаву даю на адрэз, не будзеш

шкадаваць, калі астанешся. Знатным чалавекам станеш... Лепш у вёсцы быць першым, чым у горадзе — апошнім...» І я не шкадую! Выпрабоўваючы, на што ты здатны, ён можа з табою і чарку выпіць... Дарэчы, чым ён цябе сёння частаваў?..

— Він ом.

— Яшчэ дойдзе і да гарэлкі... Ён і сам можа выпіць, зойдзе да чалавека, калі той запрашае, скажам, на вяселле ці радзіны, з сабою абавязкова што-небудзь прынясе, вып'е разам з усімі, паспявае, але мяжы не пераступіць і на заўтра, як заведзены гадзіннік, у вызначаны час будзе праводзіць ранішнюю лятучку.

— Дык няўжо ж ты думаеш, што я не падыходжу яму ў памочнікі, а потым не здолеў бы павесці гаспадарку так, як ён, а то, можа, яшчэ і лепей за яго?

— Не ведаю, — ухілілася ад адказу Марыйка. — Мой тата заўсёды кажа: гаспадарку весці — не лапці плесці... От каб ты пацёрся каля яго годзік-другі, тады іншая справа... Але, каб нам зноў не пасварыцца, дык пойдзем лепей патанцуем...

— Згодзен!..

Яны зайшлі ў клуб. Усе на іх звярнулі ўвагу, сталі шаптацца, мнагазначна падміргваць і пасміхацца. Басалыга, зрабіўшы выгляд, што нічога гэтага не заўважае, прайшоў да баяніста і папрасіў зайграць «вальс-мазурку». Марыйка не зусім смела выйшла, рухі яе былі скаванымі, а потым, як гэта кажуць, маючы добрую апору, паступова ўвайшла ў ролю: люба было глядзець, як спраўна ходзяць яе ногі, як лётае ў паветры яе стройная фігурка. Яшчэ адна пара паспрабавала за імі прайсці, але ў іх нічога не выходзіла, і яны спасавалі. Марыя з Басалыгам выйшлі пераможцамі, цяпер ужо ніхто над імі не падсмейваўся, а, наадварот, зайздросцілі. Толькі каля трох гадзін ночы скончылася ігрышча. Моладзь неахвотна разыходзілася па хатах.

Драздовіч, як заўсёды, прачнуўся ў пяць гадзін раніцы, але нешта доўга муляўся, мыючыся, фыркаў, галава была цяжкая. На заўвагу жонкі, чаму гэта ён сёння гэтак неспакойна спаў, стары адказаў: «З Невяроўскім ваяваў, наводзіў у райвыканкоме парадак».

Даўно ўжо была праведзена лятучка, размеркаваны ўсе работы, усюды заглянула вока старшыні; ён пабыў і ў кароўніку, і ў свінарніку, і ў птушніку, і на будоўлі — усюды зрабіў патрэбныя ўказанні. Нарэшце, стары зай-

шоў у канцылярыю праўлення, каб падпісаць паперы, даць распараджэнне бухгалтэрыі падрыхтавацца да выдачы авансу на працадні. Калі ён прысеў, дык адчуў, што баляць ногі, не хацелася ўжо ўставаць. «Першая адзнака старасці, — падумаў Драздовіч. — Мусіць, доўга не працягну». У гэты час зазваніў тэлефон, з райкома камсамола прасілі перадаць, каб з'явілася на нараду перадавікоў па ільне, Марыя Вішнявецкая.

Зрабіўшы ўсё, што трэба было, Драздовіч звярнуўся да шафёра:

— Возьмеш Марыю Вішнявецкую і Васіля Басалыгу, а потым заедзеш да мяне. Без чвэрткі дзесяць мне трэба быць у раёне.

— Шанцуе, — усміхнуўся шафёр.

— Каму? — не зразумеў Драздовіч.

— Гэтай парачцы.

Стары нічога не адказаў. Шафёр адчуў сябе няёмка, што ўмяшаўся не ў сваю справу.

Дарога была недалёкая. Што значыць для «Пабеды» якіх-небудзь чатырнаццаць кіламетраў да раённага цэнтра Сосны... Ехалі з хуткасцю шэсцьдзесят кіламетраў у гадзіну, шуршэла пад коламі машыны, пастуквалі каменьчыкі аб крыллі, ляцелі ў бакі пыркі з лужын. Тут, відаць, яшчэ і ноччу ішоў дождж. Маладыя белыя бярозкі па баках гравійкі былі памытыя і свежыя, як нявесты.

Драздовіч сумысля скіраваў размову пра будаўніцтва. Басалыга ажывіўся. Ён прапанаваў пабудаваць у «Новым свеце» завод, які за змену даваў бы прыкладна да тысячы шлакаблокаў, арганізаваць выраб чарапіцы, рам, дзвярэй і вокнаў.

— Мною падлічана, — гаварыў Басалыга, — што такі дом будзе каштаваць нядорага, калгаснік за некалькі год здолее яго выплаціць.

— Гэта дзела! — падумаўшы, сказаў Драздовіч.

Потым гаварылі пра розныя нязначныя дробязі. Нарэшце, Драздовіч расказаў пра свой сон — як ён віншаваў Марыю і Васіля з уступленнем у шлюб.

— Значыць, не быць гэтаму, — збялела Марыя.

— Чаму? — здзівіўся Басалыга.

— Яшчэ што! — Стары ўжо і сам быў не рад, што пра гэта загаварыў. — Выдумала нейкія забабоны.

— І мая бабка заўсёды гэтак адгадвала сны, — сказаў шафёр.

— От, нейкае глупства! — суцяшаў Басалыга. — Калі на тое пайшло, дык можам хоць сёння распісацца...

— А дзе будзем жыць? — ажывілася Марыя.

— Пабудуем камяніцу, — сказаў Драздовіч. — Сёння ж увечары збяром праўленне, абмяркуем пытанне адносна вырабу шлакаблокаў... Пасаг табе дамо, будзь спакойна... Хіба ж не заслужыла... За большае не ручаюся, а на паўкамяніцы... — Стары падумаў. — Мяркую, Васіль Антонавіч, што і вас не пакрыўдзім, дамо аванс на паўкамяніцы... Глядзіш, і дом, яшчэ і які!.. — Драздовіч павярнуўся да шафёра. — Як мяркуеш, Сяргей, падтрымае мяне праўленне?

— Уга! — адобрыў шафёр. — Займець у калгасе такую пару з іскрынкай!..

— Хопіць жартаваць, — уздыхнула Марыя.

— У кожным жарце ёсць крыху праўды, — заключыў Драздовіч. — Варта і над гэтым падумаць.

Яны ўехалі ў раённы цэнтр Сосны. Машына спынілася каля сквера, у якім густа раслі клёны і ліпы.

Марыйка выскачыла з машыны і хутка закрочыла ў напрамку да райкома камсамола. Па ўсім відаць было, што яе нешта хвалявала: гарэлі шчокі, крывіліся вусны, вось-вось з вачэй пырснуць слёзы.

— Ну, а мы з вамі, Васіль Антонавіч, можа, скокнем на «ражок», — хітра пасміхаўся Драздовіч. — У нашым распараджэнні дваццаць хвілін.

— Чаго? — не зразумеў Басалыга.

— Паклонімся Бахусу, — тлумачыў Драздовіч, вочы яго смяяліся. — Возьмем для храбрасці па шклянцы «жывіцы»..

— Што вы, Барыс Ніканоравіч, у нас жа ёсць справы, — Басалыга ўспомніў размову з Марыяй і ўхмыльнуўся. — Як кажуць: скончыў дзела, гуляй смела...

— Ну, няхай будзе на потым, — адобрыў Драздовіч.

— Выпрабоўваеце, так сказаць, — не ўтрымаўся Басалыга, каб не падпусціць старому шпільку.

— Вы самі да гэтага дайшлі? — спытаўся Драздовіч.

— Не зусім, — шчыра прызнаўся Басалыга.

— Гэта ўжо горш, — засмяяўся Драздовіч, а потым, нібы між іншым, кінуў: — А памочніца ў вас будзе не благая... З ёю і дома не засумуеш, і на людзях не пачырванееш...

Да іх падышоў Невяроўскі. Ён трымаўся так, нібы ў яго з Драздовічам нічога не адбылося. Яны прывіталіся.

— А што да Дубровінскай пушчы, дык гэта не толькі ўпрыгожанне нашага краю, але і наш ратунак...

— Гэны ў корань глядзіць! — адобрыў Крыгін. — Каму невядома, што жаваранак прылятае на праталіну, шпак — на прагаліну, жораў з цяплом, а ластаўка — з лістом. Адным словам, на ўсё свая пара, прыйшоў да нас працавіты чалавек, дамо яму разгарнуць крыллі!

— Правільна! — падтрымалі людзі.

— Я мяркую так, таварышы, — свяціліся радасцю зыркія вочы Зубкоўскага, — што выкажу вашу думку, калі скажу: галоўнае ў нас сёння — дабіцца адмены павальнай высечкі Дубровінскай пушчы... З астатнім мы самі справімся...

Пачуліся дружныя воплескі.

Паглядзеўшы ў бок Швеца, Зубкоўскі спытаўся:

— Падтрымаеце нас, Сцяпан Мікалаевіч, у гэтай справе?

— Не! — сказаў Швец. — У Мінску далі згоду на высечку Дубровінскай пушчы, а што мне...

— Ах, так! — усклікнуў Зубкоўскі. — Тады няма чаго таўчы ў ступе ваду... Будзем дзейнічаць праз вашу галаву... Я мяркую, што агульны сход «Зялёнага гаю» цалкам падтрымае дзеянне сакратара райкома па зоне МТС Міхаіла Іванавіча Брагінца аб забароне высечкі Дубровінскай пушчы...

— Згодны! — закрычалі зялёнагаеўцы.

— А што да насаджэння калгаснага лесу, дык зоймемся гэтым восенню, — гаварыў Зубкоўскі. — Яшчэ я на пленуме сельсавета мяркую ўнесці прапанову, каб пры рэгістрацыі шлюбу пытацца ў маладога і маладой, колькі і дзе яны пасадзілі дрэўцаў, а пры рэгістрацыі народжаных раіць бацькам пасадзіць хоць адно дрэўца ў гонар іх дзіцяці...

Усе засмяяліся, весела пляскаючы ў далоні.

— А цяпер можна разыходзіцца! — сказаў Зубкоўскі і пайшоў у залу.

— Пачакайце! — усхапіўся Швец. — Сход не скончаны. Я не ўхваляю вашага рашэння аб перавыбранні Кругалевіча... гэта анархія... нельга так дзейнічаць... ва ўсім вінаваты Брагінец, які прыцягваецца да партыйнай адказнасці і за ваш сход, і за спыненне высечкі Дубровінскай пушчы... Ён завысіў свае правы...

Падняўся шум, свіст, выкрыкі абурэння. У гэты час да стала прэзідыума падышоў інструктар райкома пар-

тыі, які, відаць, толькі што прыехаў. Ён перадаў Брагінцу нейкую паперку.

— Таварышы! — звярнуўся да сходу Брагінец. — Прыйшла з Масквы тэлеграма... «Забараніць высечку Дубровінскай пушчы, ператварыць яе ў дзяржаўны запаведнік».

— Ёсць на свеце Масква, — горача сказаў Крыгін. — Ёсць на свеце і праўда.

Швец узяў у рукі тэлеграму, прачытаў, апусціў галаву і, цяжка ступаючы, пайшоў з клуба. Узбуджаныя, гамонячы, выходзілі на двор людзі. Пасля дажджу пасвяжэла, вальней дыхалася.

— Шумяць лясы зялёныя, — паглядзеўшы ў бок пушчы, абапіраючыся на кій, задаволена сказаў Крыгін.

— І будуць шумець, пакуль будзе жыць народ, — заначыў Брагінец.

— Гэна дзела! Мужчыны, павеяў свежы вятрыска, закрасуе і наша зямля. Добра жыць на свеце!

Задаволеныя, усе весела заўсміхаліся.

*1955*



# Саўка Траян

Неяк пад восень у выхадны дзень мы ўтрох паехалі на Нарач, каб трохі адпачыць. Прыбыўшы туды, адразу зайшлі да нашага знаёмага, які аднойчы летняй ноччу на беразе возера расказваў нам цікавыя гісторыі. Дома мы старога не засталі. У вёсцы грукаў бубен, заглушаючы цымбалы, кларнет і скрыпку. Падышлі і мы туды. Там аказаўся і наш знаёмы — Высеўка, які абрадаваўся сустрэчы. Дзяўчаты і хлопцы танцавалі «Юрачку», прыпяваючы:

Ах ты, Юрачка,
Што не жэнішся?
Прыйдзе зімушка,
Дзе ж ты дзенешся?

Нас з першага погляду ўразіў адзін дзяцюк. Ён быў на выгляд непаваротлівы, як мядзведзь, але выкідваў такія каленцы, што можна было толькі пазайздросціць.

— Што за ён? — пацікавіўся хтосьці.

— Зарачанскі хлопец, недзе пад Смаргонню ў малярні працуе, — адказала адна дзяўчына.

— Вунь што... Мусіць, «Смаргонскую акадэмію» скончыў, — усміхнуўся стары.

Мы зацікавіліся, адкуль пайшла гэтая назва.

— Хочаце, раскажу? — прапанаваў нам Юльян Высеўка.

— Вельмі просім! — наперабой загаварылі мы.

Юльян Высеўка адышоўся ўбок, сеў на бервяно каля дома, што стаяў у рыштаваннях. Мы прымайстраваліся каля яго.

— Ужо шмат часу прайшло, можа, нават, сто год, — пыхкаючы люлькаю, пачаў расказ Юльян Высеўка, —

як па загаду аднаго з князёў Радзівілаў недалёка ад мястэчка Смаргонь, сярод дрымучых лясоў, цесляры змайстравалі вялізную адкрытую будыніну — таптыгінскую «акадэмію». Пазней яна стала вядомай як «Смаргонская акадэмія», у якой навучаліся мядзведзі камедыянству, каб забаўляць у каралеўскіх палацах яснавяльможнае панства.

Але больш за ўсё паны любілі паляванне на мядзведзяў. Часцей за ўсё аблавы наладжваліся ў пушчы, недалёка ад Смаргоні, куды выпускаліся прыручаныя мядзведзі, якія не вельмі ўцякалі ад чалавека. Тады лес аж звінеў ад прызыўных гукаў ражкоў, гоману прыгонных сялян і рамеснікаў, якіх выганялі на панскае паляванне.

А пасля палявання паны звычайна шукалі дзяўчат, каб пацешыцца ў палацах пасля балявання. Дарэмна вясковыя прыгажуні на паляванне адзяваліся ў рыззё, хавалі твары, горбіліся, прыкідваючыся старымі, — цікаўныя вочы дваровай чэлядзі, войтаў і цівуноў высочвалі іх, паказвалі панам.

Яшчэ задоўга да адкрыцця «акадэміі» асеўшыя ў лесе цыганы дрэсіравалі медзведзянят, а потым прадавалі панам за дарагую цану. Радзівіл нікога з цыганоў не ўзяў у штаты «акадэміі», а прымусіў прыгоннага цесляра, бондара і цымбаліста Саўку Траяна ўзначаліць гэтую справу. Прычынай, што схіліла Радзівіла прызначыць «прэзідэнтам» Саўку, была незвычайная Саўкава сіла. Дастаткова яму было самага раз'юшанага быка ўхапіць за рогі, стукнуць кулаком па галаве, як той валіўся на зямлю. Да ўсяго гэтага дасціпнасць і штукарства Саўкі, весялосць і музычныя здольнасці гаварылі за тое, што з яго можа быць добры камедыянт. Але бадай самым важным было тое, што ў цесляра падрастала дачка, ды такая прыгажуня, што вачэй не адарваць. Трэба было бацьку быць напагатове, каб у патрэбны момант схаваць дачку.

Аднойчы ўлетку, прыехаўшы ў «акадэмію», Радзівіл падышоў да старога бурага мядзведзя, купленага ў цыганоў, і загадаў:

— Ану, Міхайла, пакажы, як п'яны мужык з кірмашу вяртаецца!

Таптыгін злосна глянуў на пана, зароў і падняўся на заднія лапы, з яўным намерам накінуцца на яго.

— Саўка, барані! — закрычаў перапалоханы Радзівіл.

— Таптыгін! — грозна крыкнуў Саўка, але мядзведзь і вухам не павёў: ён паволі набліжаўся да пана, прыціскаючы яго да сцяны.

Тады Саўка што было сілы ўдарыў кулаком у вуха мядзведзю: той, аглушаны, зваліўся, пакруціў галавою і паскроб кіпцюрамі карак.

— Што за непаслушэнства? — пасмялеў пан. — Гэта бунт!

— Ніякага бунту, паночак, — з-пад рудых кусцістых броваў Саўкі смяяліся зыркія чорныя вочы. — Таптыгін любіць парадак...

— Які? — Радзівіл выцер успацелую лысіну.

— Перш чым мужыку п'янаму быць, дык трэба ж выпіць, — усміхнуўся Саўка.

Перад Радзівілам, высокім і крыху сутулым выпешчаным франтам, з маноклем, у кіцелі з бліскучымі гузікамі, у белых пальчатках, са стэкам, стаяў, шырока расставіўшы абутыя ў лапці ногі, каржакаваты Саўка, у шэрай світцы, якая, здавалася, трашчала на шырокіх плячах.

— Цікава... — вымавіў Радзівіл.

— Пакажы, Таптыгін, — як мужык на кірмашы гарэлку п'е! — загадаў Саўка.

Мядзведзь паслухмяна перакуліў дзве кварты «гарэлкі» (гэта была вада, падсалоджаная мёдам), аблізнуўся і панюхаў скарынку хлеба.

— Фацэцыя! — зарагатаў Радзівіл.

— Ну, а як з кірмашу вяртаецца? — спытаўся Саўка.

Буры, хістаючыся і падаючы, прайшоўся перад панам, які аж заходзіўся ад смеху.

— А як дома жонку б'е? — ухмыльнуўся ў пракураныя вусы Саўка.

Мішка жвава ўхапіў у правую лапу папругу, левай — нібы ўзяў нябачную ахвяру за валасы, нагнуў і пачаў дубасіць.

— Ох-хо-хо! — схапіўся за жывот Радзівіл. — Малайчына, Міхайла, вазьмі за гэта пернік!

Пан падкінуў ласунак угару. Мішка хацеў адбіць пернік, але прамахнуўся, злосна зароў і падняўся на заднія лапы.

— Еш, дурань, то з мёдам! — выгукнуў Радзівіл.

— Ой, што вы нарабілі, — спалохаўся Саўка. — Мядзведзь не любіць, калі яму кідаюць, як сабаку...

— А ліха ведае яго норавы! — затросся Радзівіл, адступаючы назад.

— Таптыгін, супакойся! — крыкнуў Саўка, засланяючы пана, але мядзведзь з разяўленай зяпай наступаў. Тады гаспадар ударыў звера ў другое вуха, і той скарыўся, пакруціў галавою і адышоўся ўбок.

— Што яго дрэнчыць? — дапытваўся Радзівіл.

— Ён не любіць блішчастых гузікаў, — паведаміў Саўка.

— Хо! Гэта ты яго так адукаваў... — працадзіў праз зубы Радзівіл. — А што ён яшчэ ведае?

— Многае. Вельмі здатны да навукі.

— Прыкладне?

— Можа паказаць суседняга пана, які ён ласы да дзяўчат, — сказаўшы, Саўка непрыкметна глянуў на Радзівіла.

— Хе-хе! Штукар ты, Саўка, выдумляеш на сваю галаву. Паказвай, паглядзім!

— Таптыгін! Дык як ягамосць Скірмунт хапае дзяўчат?

Мішка крутнуў галавою, спыніў погляд на цурбане, нібы гэта была дзяўчына, соладка пацягнуўся, пакачаўся па зямлі, потым, крадучыся, падпоўз, схапіў цурбан і панёс, равучы ад задавальнення.

— Ха-ха-ха! — зарагатаў Радзівіл і раптам пасуровеў: — Кажуць, дурны мужык, як варона. Хо-хо! З каго надумаў насміхацца? — Князь разрэзаў паветра стэкам. — Няхай будзе так. Міхайла сёння павязе мяне на санях да касцёла...

— Летам на санях? — здзівіўся Саўка.

— А што ж такое: пасыпаць дарогу соллю, — цвёрда сказаў Радзівіл.

Забегалі слугі. Ім вядома было не адно дзівацтва князя, але такога — і ў сне не снілі. Забралі ўсе запасы солі ў навакольных крамах, каб больш як на кіламетр пасыпаць дарогу. Ужо даўно стаяў мядзведзь, запрэжаны ў сані, тут жа пахаджваў Саўка. На яго панурым твары можна было прачытаць вялікую тугу і роспач. Прыгонныя сяляне пасыпалі соллю ўжо апошнія гоні, як падышоў са сваёй світай Радзівіл. Ён спадылба кальнуў вачыма Саўку і загадаў запрэгчы яго прысцяжным.

— Таптыгіну за тое кара, што не паслухаўся пана, — растлумачыў Радзівіл, — а Саўку — што навучыў яго...

Паўтарадь загад не прыйшлося, увішныя служкі хутка прыпрэглі і Саўку, які ні слова не сказаў, а толькі сціснуў кулакі ў кішэнях.

Гэта было ў першы дзень лета. Як на дзіва, глядзелі людзі, калі ехаў Радзівіл у мястэчка да касцёла і вяртаўся ў «акадэмію». Цяжка было на душы Саўкі, затуманіліся яго вочы. Быццам адчуўшы пакуты Саўкі, мядзведзь лізнуў яго руку. Саўка павесялеў:

— Нічога, Мішка, сцерпім!

— Но-о! — крыкнуў Радзівіл. — Абнюхаліся!

Каля «акадэміі» сабраўся вялізны натоўп, тут жа круціўся цыган з мядзведзіцай Машкай, якую хацеў збыць князю, а самому наняцца ў «акадэмію» на работу.

— Гаспадын князь! — звярнуўся да Радзівіла барадаты павадыр, трымаючы на ланцугу бурую калматую мядзведзіцу. — Купі Машку.

— А што яна ўмее рабіць?

— Ма-ля-да дзяў-чы-на, ма-ля-да дзяў-чы-на па ваду пай-ш-ла! — спусціўшы мядзведзіцу з ланцуга, праспяваў цыган.

Машка паднялася на заднія лапы, узяла ў павадыра палку, паклала яе на плечы, нібы каромысла, і пайшла «па ваду», аглядаючыся па баках. Праз некалькі крокаў яна апусцілася на зямлю, зрабіла пярэднімі лапамі такія рухі, нібыта набірала з рэчкі ваду ў вёдры, і потым, зноў падняўшыся на заднія лапы, пайшла да цыгана, ужо апусціўшы галаву і сутулячыся, нібы несучы на каромысле два цяжкія вядры з вадой.

— І ўсё? — спытаўся Радзівіл.

— Яна ма-ля-да, купі і вазьмі, гаспадын князь, мяне на работу, не такія фокусы ўбачыш.

— Пшоў вон!

— Гаспадын князь... — стаў на калена барадаты цыган.

Але Радзівіл не слухаў яго. Ён падышоў да Саўкі, кальнуў вачыма, поўнымі гневу, і злосна сказаў:

— Да зімы Таптыгін павінен стаць ласкавым, як цяля. Яго я выпушчу ў лас, калі з'едуцца заморскія госці на паляванне.

Так і разышліся пан з мужыком. Саўка стаў задуменным, шкада яму стала звера, які прызначаўся для пацехі панам. «Што б такое зрабіць, як навучыць, каб мядзведзь пастаяў за сябе?» — думаў Саўка. Марудна ішло навучанне. Саўка дамагаўся, каб у сценах «акадэміі» Таптыгін быў рахманым, але калі выпускаў яго ў лес, дык прымушаў асцерагацца. Да зімы такі Саўка дабіўся свайго: як толькі Міхайла пераступаў парог «акадэміі», ён насцярожваўся, а калі ў лесе чуў ражок і чалавечы голас, адразу займаў абарончую пазіцыю. Калі ж мядзведзь заўважаў у каго стрэльбу, дык гатоў быў тут жа кінуцца на яе ўласніка і абяззброіць яго.

Ужо скавала зямлю, яна аж звінела. Да Радзівіла з'ехаліся госці з усяе Еўропы. Як толькі выпаў першы снег, было прызначана паляванне на мядзведзяў. Паднялі на аблаву насельніцтва наваколля. Абкладчыкі даўно былі на сваіх месцах, як досвіткам у нядзелю прыехаў у вазку на чатырох гнядых, запрэжаных цугам, князь Радзівіл. Пакінуўшы ў вазку футра і стрэльбу, у лёгкай паляўнічай куртцы, падпяразаны патранташам і з кінжалам збоку, пан зайшоў у «акадэмію». Саўка з гадзіны на гадзіну чакаў Радзівіла, а ўбачыўшы яго, зняў шапку і нізка пакланіўся.

— То як, прыручыў Міхайлу? — замест прывітання спытаўся Радзівіл.

— А як жа! — адказаў Саўка. — Калі ёсць які ласунак, можаце з рук даваць.

— Таптыгін! — асцярожна звярнуўся пан. — На пернік!

Мядзведзь падышоў да князя і ўзяў з рук ласунак, з'еў і, стаўшы на заднія лапы, яшчэ прасіў.

— То і добра, — паспакайнеў Радзівіл, — выпускай яго ў лес.

— Мішка! На прагулку! — голас у Саўкі задрыжаў.

Мядзведзь ціха зароў, як быццам заплакаў, выцер лапамі вочы і паволі пайшоў з «акадэміі», нібы адчуваючы, што назаўсёды з ёю развітваецца.

— Ты пойдзеш са мною, — звяртаючыся да Саўкі, сказаў Радзівіл. — Я хачу мець у сваім кабінеце шкуру мядзведзя.

Старшы абкладчык, які на працягу некалькіх месяцаў вывучаў паводзіны мядзведзя ў лесе, адвёў

князю адпаведнае месца. Тут жа быў і Саўка. Яго думкі цяпер былі заняты тым, як бы ўратаваць дачку Настасю, каб яна не стала ахвярай магната. Звычайна паны пасля палявання дзе-небудзь на ўскраі лесу перакусвалі, а падпіўшы, хапалі дзяўчат і везлі ў палацы.

Пачалася аблава. Пушча напоўнілася гукамі ражкоў, шумам, трэскам, людскім гоманам. Неўзабаве то ў адным месцы, то ў другім прагучалі стрэлы. Радзівіл захваляваўся: як бы яго не абмінула паляўнічае шчасце. У гэты час зусім блізка паказаўся мядзведзь. Закалаціліся рукі ў Радзівіла. Ён зладжыўся і стрэліў, але толькі параніў звера. Таптыгін, дзіка зароўшы, кінуўся на пана.

— Саўка, ратуй! — крыкнуў напалоханы Радзівіл.

— Міхайла! — гукнуў Саўка, але раз'юшаны звер ці то не пачуў, ці не захацеў яго слухаць.

Тады Саўка перагарадзіў яму дарогу. Таптыгін лапаю адштурхнуў павадыра, разадраўшы яму шчаку.

— Пся крэў! — аж зароў Радзівіл. — Заб'ю аднаго і другога.

— Гэтак? — цярпенне Саўкі лопнула ўраз. Таптыгін, пашкадуй пана, — не загадаў, а нібы папрасіў ён мядзведзя.

Мядзведзь, выбіўшы стрэльбу з рук аслупянелага Радзівіла, абхапіў лапамі князя, патрос, як грушу, і кінуў на зямлю. Абкладчык, які ўсё гэта бачыў, пусціўся наўцёкі. Саўка пастаяў у нерашучасці, потым узяў панскую стрэльбу, патранташ і сказаў:

— А цяпер, Таптыгін, дай бог ногі!

І яны зніклі ў гушчары. У той жа дзень і сям'я Саўкі пакінула вёску.

Калі Радзівіл акрыяў, дык загадаў прачасаць усе лясы аколіцы, каб знайсці бунтара Саўку Траяна («Смаргонская акадэмія» пасля аблавы была закрыта). Колькі ні шукалі, нідзе не знайшлі. Толькі пасля гэтага то ў адным месцы, то ў другім пачалі гарэць маёнткі. Паны казалі, што гэта работа «Саўкі-разбойніка». І яшчэ здаралася, што мядзведзь нападаў на паноў. Сустрэне мужыка ў світцы і лапцях — не зачэпіць, а як пана з блішчастымі гузікамі — абхопіць лапамі, прыцісне да сябе, патрасе і кіне. Бывалі выпадкі, што яшчэ і па карку дасць. Потым пайшла чутка, што Саўка Траян падаўся да Кастуся Каліноўска-

га, нібы ў таго быў правай рукою. Ну і латашыў жа ён паноў! Што з Саўкам далей стала, ніхто не ведае. Але людзі і цяпер яшчэ ўспамінаюць цымбаліста і штукара — памяць аб ім жыве...

На гэтым Высеўка скончыў. Мы, уражаныя, доўга маўчалі.

— Адкуль вам вядома гэтулькі цікавых гісторый? — не ўтрымаўся мой сябра.

— А вы часцей бывайце ў гушчы народа, яшчэ мудрэйшае пачуеце. — Юльян Высеўка выбіў аб бервяно патухлую люльку, зноў набіў яе мультаном і задыміў. — Толькі да ўсяго трэба падыходзіць з розумам, адбіраць... Я так лічу: людзі павінны ведаць, што вытваралі некалі паны... Яшчэ важна тое, што зямля наша ўскарміла такога Саўку, ды не аднаго, пра іх не толькі нашы людзі, але і ўвесь свет павінен ведаць... Яны загінулі недарэмна...

А дзяўчаты спявалі:

Ой, рэчанька, рэчанька,
Чаму ж ты не поўная,
Люлі, люлі, люлі,
Чаму ж ты не поўная?

Час позні, нам трэба адпраўляцца ў дарогу, але не хочацца, гэтак добра ў ціхім кутку Нарачаншчыны. Развітаўшыся з Юльянам Высеўкам, мы паабяцалі пры зручным выпадку яшчэ да яго зазірнуць.

*1956*



# На скрыжаванні дарог

Быстры, серабрысты Нёман у затоцы нібы спыніўся ў сваім імклівым бегу, закружыўшы ў віры пажоўклае лісце. Зайшло сонца. У сіняй гладзі вады, як у люстэрку, адбіліся блакітным ззяннем месяц, залацістыя зоры, пуховыя воблакі, што, як статкі баранчыкаў, паволі плылі з поўначы на поўдзень. На пагулянку выйшаў, відаць, сом. Ён раз-пораз усплёскваў ваду, парушаючы вячэрнюю цішыню.

На крутым беразе рэчкі раслі каржакаватыя дубы, раскінуўшы свае галіны, утвараючы своеасаблівыя шатры. Далей стройнымі радамі ўзвышаўся саджаны сасновы падлесак, пахла смалою. Дзесьці, нібы малое дзіця, заплакала сава: «Ку-га-а!», потым быццам засмяялася: «Хо-хо-хо-о!» Лес напоўніўся рэхам. З рэчкі павеяла прахалодай.

— До-о-бра-а!.. — гаворыць сам сабе Мірон Андрэевіч Корань, высокі і сутулы стары, з парэпанымі рукамі, у акулярах, з сівымі апушчанымі вусамі і шэрымі вачыма. Ён закінуў у рэчку вуду са званочкам, пасля ўзяў абвязаны белай анучкаў збанок за ручку, ускінуў на плячо паліняялы рукзак і цяжкаю хадою падышоў да кастра.

Юшка са свежай рыбы ўжо кіпела, у носе казытаў прыемны пах. Корань зменшыў агонь, каб не выкіпаў навар, прысеў. Мы былі ў добрым настроі: як-ніяк, а на юшку рыбы налавілі, хацелася каля кастра пагаварыць, падумаць, памарыць. Яшчэ мне карцела пачуць ад старога пра першыя дні рэвалюцыі ў Петраградзе. Корань тады працаваў качагарам на Пуцілаўскім заводзе. Патрэсквала сухое голле, час ад часу ўзвіваліся языкі полымя, разразаючы цемень, навокал мігцелі цені.

— Ну і абмялеў Нёман, проста не пазнаць рэчкі, — загаварыў Корань. — Што ж, многа вады сплыло... Бывала, калі з бацькам плыты ганялі... Дзіва, гэтак лясы спляжыць!.. Быў я сёння на сваёй радзіме... Там, дзе раней шумела пушча, цяпер гола... хоць у бубен бі...

— А вы хіба з гэтых мясцін? — спытаў я.

— Родам я з вёскі Каласовічы, недалёка ад нас і пачынаецца славутая рэчка, — адказаў стары. — Дзе б я ні быў: ці ездзіў на паравозах і суднах, ці стаяў каля топак электрастанцый, я часта з замілаваннем успамінаў радзіму, сцежкі, дзе вучыўся хадзіць.

— Цікава, — аж прыўстаў я. — А мне адзін чалавек з сур'ёзным выглядам даводзіў: паколькі рабочы па сваёй прыродзе інтэрнацыяналіст, то што́ яму да радзімы...

— А па-мойму, — папраўляў агонь Корань, — толькі той чалавек, які па-сапраўднаму любіць радзіму, свой народ, сваю культуру, звычаі і мову, якой маці навучыла, можа быць сапраўдным інтэрнацыяналістам...

Мне ніколі не прыходзілася гаварыць з рабочым на гэтую тэму, а таму я пастараўся падтрымаць размову.

— Хто яго ведае чаму, але так здарылася, — пачаў я, — што на нашу краіну і на яе людзей некаторыя глядзелі зверху ўніз. Казалі, што наш народ забіты, не мае характару, чаго ад яго чакаць?..

— Н-да!.. — пасуравеў Корань. — Давайце ўдакладнім: хто імкнуўся прынізіць беларусаў? Паны распаўсюджвалі аб іх думку, што гэта людзі цёмныя, што ім не ўласцівы высокія ідэалы. З лёгкай рукі нейкага пана, які напісаў пра беларуса, пэўна, з расказу такога ж самага пана, яго іначай і не ўяўлялі, як з каўтуном на галаве, ціхім і пакорлівым. Давайце разбяромся, ці гэта так.

Мяне і раней цікавіў Корань, з ім было аб чым пагаварыць, але сёння ён паўставаў у іншым святле. Недарма кажуць: каб чалавека пазнаць, трэба з ім пуд солі з'есці. Не звяртаючы ўвагі на юшку, якая моцна кіпела, я слухаў старога. Але Корань не з такіх, каб дарэмна псаваць рыбу, — ён зняў з палкі закураны салдацкі кацялок з юшкай і паставіў збоку на вуголле.

— І трэба ж было беларусу пасяліцца на скрыжаванні дарог, — набіўшы люльку мультаном, задыміў Корань. — Колькі па іх праходзіла ўсялякіх заваёўні-

каў, якія імкнуліся захапіць дабро, здабытае працаю нашых рук. Разам з рускімі і ўкраінцамі беларусы білі Мамая на Куліковым полі, Радзівіла пад Мінскам, Карла XII каля вёскі Лясная і пад Палтавай, Напалеона на Бярэзіне, войскі кайзера Вільгельма II і легіёны Пілсудскага, нарэшце, білі орды Гітлера. Незлічоныя курганы, дзе парахнеюць косці чужынцаў, — гэта нямыя сведкі шматлікіх бітваў, што тут адбываліся. На беларускай зямлі неаднойчы разыгрываліся крывавыя драмы, і, зразумела, нашаму брату нямала пападала. Не раз крывёю ўмываліся. Прайшоўшы праз такую школу выпрабаванняў, беларус загартаваўся, на векі вечныя парадніўся з братнімі народамі, стаў незалежным і больш за ўсё любіць радзіму і свабоду. — Корань падумаў. — Мінчане адны з першых у семнаццатым годзе патрабавалі рашучых дзеянняў, звяржэння ненавіснага Часовага ўрада. Значыць, разумелі, што да чаго! Палешукі першыя ў васемнаццатым годзе паднялі паўстанне супраць кайзераўцаў. Гэта што-небудзь ды значыць!

— Плысці супраць плыні нялёгка, — уставіў я. — Колькі гаварылі і пісалі, што беларус ціхі, няздатны пастаяць за сябе. У некаторых гэтая думка ўсталявалася. Паспрабуй давядзі ім.

— А давесці трэба! — Корань пастукаў люлькай па абцасе юхтовага бота, выбіваючы попел. — Англічане кажуць: «Чыстае сумленне не баіцца абвінавачванняў». Беларус таму, што яго зневажалі, не стаў горшы. Бруднае да чыстага не прыстае. Праўда, беларусы, як і ўсе людзі на зямлі, неаднолькавыя. Трапляе часам і людскі шлак, але не яго я маю на ўвазе, калі гавару пра беларусаў.

Мне прыемна было пачуць ад рабочага такую думку аб сваіх людзях.

— Мірон Андрэевіч! — звярнуўся я да Кораня. — А дзе вы былі і што рабілі ў час вайны?

— Якой вайны? Я іх тры пражыў.

— Вайны з фашыстамі.

— А-а-а... — Стары падумаў. — Пра сябе як быццам і не зручна гаварыць, але раскажу.

У гэты час забрынкаў званочак, і Корань стрымгалоў кінуўся да рэчкі, адкуль у яго спрыт узяўся. Ён выхапіў вудзільна, пацмокаў, паахаў, зноў начапіў прынаду і закінуў вуду.

— Недарма кажуць: паспяшыш — людзей насмяшыш, — вяртаючыся да кастра, шкадаваў ён. — І нешта добрае бралася... Няйначай галавень... толькі луской бліснуў...

Корань прымайстраваўся каля шурпатага дуба і загаварыў:

— На другі дзень, калі фашысты прыйшлі ў Мінск, я кінуў работу на электрастанцыі і з сям'ёю падаўся на бацькаўшчыну, у Каласовічы. З блізкіх родных там нікога не асталося — адны паўміралі, а другія разбрыліся па свеце. Бацькава хата даўно струхлела, і нават вуглоў не было. Закватаравалі мы ў канцавой хаце, ва ўдавы Мальвіны Дзяругі, старой кабеты. Яна была ціхая, здавалася, вады не замуціць, толькі ўпалыя вочы неяк асабліва гарэлі. Я неяк застаў яе за работаю: яна выкройвала торбу з кужэльнага палатна. Адна ўжо была гатова. «Навошта вам, цётка Мальвіна, гэтыя торбы?» — спытаўся я. «Родненькі, — апаліла яна мяне сваімі праніклівымі вачыма, — не чакай дабра ад гэтага гадаўя. Чаго іх прынесла нячыстая сіла да нас? Каб парабаваць. То, можа, торбы спатрэбяцца — ці схаваць што, ці хадзіць з імі...» Праз некаторы час Мальвіна стала разведчыцай. Але я забягаю наперад.

— Хіба вы былі ў партызанах? — пацікавіўся я.

— Так, — сцвердзіў Корань. — Павінен вам сказаць, што не ў маёй натуры выхваляцца, але я падняў Каласовічы на барацьбу. Хоць каб не я зрабіў, другі б знайшоўся. Праўда, пакуль разварушыліся каласавічане, прайшоў пэўны час. Людзі нездаволены былі, што савецкае войска так паспешліва адступіла. «Нейкі, мусіць, непарадак, — гаварылі. — Пэўна, нехта даў зяўка». Але калі падняліся, горача было фашысту на нашай зямлі. Што праўда, то праўда, — ціхі наш народ, але да пары, пакуль разгневаецца, а потым толькі трымайся! Мне нашы людзі нагадваюць захаваную сілу спружыны, якая моцна б'е, вызваляючыся ад сціскання.

— А для чаго цётцы Мальвіне патрэбны былі торбы? — напомніў я.

— Начапіўшы торбы, прыкінуўшыся жабрачкай, з кіем у руках, уся ў чорным, цётка Мальвіна скалясіла некалькі раёнаў, збіраючы звесткі аб праціўніку, — паведаміў Корань. — Пра яе кемлівасць і адвагу шмат можна гаварыць, але я раскажу пра самае галоўнае. Аднойчы на наш атрад навалілiся вялікія сілы гітле-

раўцаў з танкамі. Прызнацца па праўдзе, моцна тады фашысты білі партызан — мы сыходзілі крывёю. У нас не было чым абараняцца ад танкаў. І вось у баі пад вёскай Забалоцце, дзе партызанам пагражала поўнае акружэнне, гэтая старая жанчына са звязкай гранат выйшла на паядынак з танкам. У танку разляцелася гусеніца, і страшыдла з крыжам задыміла. Сваёй геройскай смерцю Мальвіна Дзяруга натхніла партызан і фактычна выратавала атрад. І гэта зрабіла простая беларуская сялянка. Пазайздросціць можна!

— Згодзен, — сказаў я.

— А колькі было слаўных спраў у іншых нашых жанчын у час вайны, я ўжо не кажу пра мужчын — партызан і савецкіх воінаў, — усхвалявана гаварыў Корань. — Уся Беларусь узнялася на барацьбу. Нашаму народу даражэй за ўсё свабода. Дзеля яе нашы людзі не шкадавалі жыцця. Два мільёны дзвесце тысяч загінула нашых людзей на фронце і ў тыле праціўніка. Акрамя гэтага, гітлераўцы трыста восемдзесят тысяч юнакоў і дзяўчат вывезлі ў Германію. Фашыстам ва ўсім памагалі людзі з чорнымі душамі — беларускія буржуазныя нацыяналісты, будзь яны праклятыя! Але народ выстаяў. — Корань уздыхнуў. — Як ні цяжка нам узнімаць гарады і вёскі, але трэба паклапаціцца і пра герояў нашага народа, ушанаваць іх памяць.

Корань гаспадарлівым вокам паглядзеў на юшку, зняў кацялок з вуголля, і мы сталі рыхтавацца да вячэры. Разліўшы страву — мне ў вялікую салдацкую конаўку, а сабе ў пагнутую алюмініевую міску, — стары вывернуў рыбу ў агонь.

— Што вы зрабілі? — здзівіўся я.

— Н-да... — Корань ухмыльнуўся. — Сапраўдны рыбак ніколі не будзе есці вываранай рыбы. Які з яе наедак!

Стары моўчкі сёрбаў юшку. Я спрабаваў загаварыць пра самае галоўнае, дзеля чаго паехаў на рыбалку, пра Петраград, але ён зрабіў выгляд, што не чуе мяне. Тады я пачаў есці. Якая гэта была смачная юшка, можа ведаць толькі той, хто хоць раз у жыцці ласаваўся ёю каля кастра ўначы. Не ў крыўду хай будзе сказана: ні адна самая найлепшая гаспадыня на кухні такой ежы не згатуе! Павячэраўшы, Корань закурыў, потым памыў кацялок, набраў вады і паставіў на жар для чаю.

— Чалавек, груба кажучы, нагадвае мне крыху топку катла, — сказаў Корань. — Добра заправіш яе — пары будзеш мець у дастатку...

— Мірон Андрэевіч! А як вы гледзіце на тое, што паравыя катлы, на якіх вы паўвека працуеце, у будучым страцяць сваё ранейшае значэнне? — запытаўся я.

— Як я на гэта гляджу? — Корань, відаць, не чакаў такога пытання, ён моцна пацягнуў з люлькі і закашляўся. — Катлы зрабілі сваю справу і ў музеі зоймуць належнае месца... Хоць не адмовіліся ж мы ад каня, а чаму адмаўляцца ад катла... Ён яшчэ паслужыць чалавеку...

Мне казалі, што Корань, працуючы качагарам на Кіраўскім (былым Пуцілаўскім) заводзе, чуў прамову Леніна. Мяне гэта вельмі цікавіла, і я хацеў навесці яго на ўспаміны.

— Мірон Андрэевіч! Кажуць, што вы бачылі Леніна? — нарэшце спытаў я. — Які быў Ільіч?

— Помню — жвавы такі, але не мітуслівы, — заззяў Корань, — на ўсіх ласкава паглядае. Яго слова разумеў кожны, ды і як не разумець, калі яно гаварылася ў інтарэсах рабочага і ў абарону ўсяго народа. Вядома, яго разумелі лепш, чым іншых.

І Корань расказваў далей:

— Гэта было ў маі 1917 года. Эсэры хацелі правесці на Пуцілаўскім заводзе мітынг. Пры дапамозе салодкіх прамоў Чарнова яны думалі сагітаваць сорак тысяч пуцілаўцаў на падтрымку Часовага ўрада.

А Чарноў толькі на словах афарбаваны ў колер рэвалюцыі. Акрамя сувязі з масамі, якім ён гаварыў адно, Чарноў меў сувязь з буржуазіяй, якой гаварыў зусім другое.

Эсэры пачалі агітаваць рабочых: прыходзьце, моў, на сход. Прыедзе красамоўнейшы з прамоўцаў — Віктар Чарноў.

Даведаўшыся пра гэта, мы, беспартыйныя, пачалі прасіць бальшавікоў паведаміць у ЦК партыі, у палац Кшэсінскай.

Пуцілаўскі завод — найвялікшы арсенал, які выробляў ваеннае ўзбраенне, вялікая маса рабочых, спаяных адзінай воляй і пралетарскімі інтарэсамі. Гэты калектыў заўсёды даваў рэвалюцыйны тон усяму рабочаму Піцеру, наводзіў страх на буржуяў стальной сваёй згуртаванаю грамадой. Калі рушыць саракаты-

сячная маса Пуцілаўскага завода да Нарвскіх варот, якая сіла спыніць?

Мітынг пачаўся ў тры з паловай гадзіны дня на вялізнай плошчы заводскага двара. Гэта было вядомае месца пуцілаўскіх агульназаводскіх сходаў.

Трыбуна была на скорую руку збіта будаўнічым цэхам без усялякага ўбрання, без кветак, простая драўляная трыбуна.

Калі прагуў гудок, рабочыя першай змены выйшлі з цэхаў, спяшаючыся, на хаду пакуллем выціраючы рукі.

Хутка запаўняецца плошча, рабочыя займаюць чыгуначныя платформы: хто стаіць, хто садзіцца на край; усаджваюцца і стаяць на балванках, узбіраюцца на прылягаючыя карпусы — сталепракатны і жалезапракатны, на старую галоўную кантору. Тут і барадатыя старыя, і сярэднія, і зялёна-маладыя — стракаты пуцілаўскі састаў. Тут і салдаты, якія тады працавалі на заводзе.

Прамоўца Чарноў красамоўна заклікае масу падтрымліваць Часовы ўрад, выплаўляць гарматы, рабіць снарады — шасцідзюймовыя, фугасныя і саракадвухсантыметровыя і, галоўным чынам, — гарматы, гарматы і гарматы для прадаўжэння вайны.

Не цяжка было ў той час сабраць мітынг, але не кожны прамоўца мог уздзейнічаць на рабочага.

Слухаюць яго ўважліва, ветліва, хоць ведаюць, што ён гаворыць не тое, чаго хочуць усе.

Тады яшчэ меліся сярод некаторай часткі рабочых абарончыя настроі. Не такі просты быў пераход да ліпеньска-кастрычніцкай барацьбы.

Калі скончыў гаварыць Чарноў, раптам з'явіўся Ільіч. Неяк знянацку, з саракатысячнай масы падняўся ён на трыбуну.

І ў процівагу таму, што гаварыў Чарноў, Ленін даводзіў, што неабходна перш за ўсё заключыць мір без анексій і кантрыбуцый, спыніць кровапраліцце і голад, якія перажывае краіна.

Не ведаю, ці знойдуцца такія словы, каб перадаць тое вялікае захапленне, тую сілу, якой ён падпарадкаваў усіх, хто яго слухаў.

І калі Ільіч, гаворачы ад імя ўсіх і за ўсіх, выказаў свае думкі адносна вайны, пералом сярод пуцілаўцаў адбыўся на вачах, і чацвёртага мая пуцілаўцы на Неў-

скім, а потым першага ліпеня ля магілы ахвяр рэвалюцыі патрабавалі:

— Далоў дзесяць міністраў-капіталістаў, далоў Мілюкова і Гучкова дарданельскіх!

Рабочыя і цяпер помняць усё, што гаварыў Ільіч.

І кожны пуцілавец помніць гэтую грандыёзную карціну мітынгу рабочых, гатовых пайсці на любую барацьбу.

Гэты мітынг даў вельмі многа для гісторыі. Ён нацэліў пуцілаўскую масу, а пуцілаўская маса нацэліла ў рэвалюцыю. І гэты дзень я памятаю як самае цудоўнае ў маім жыцці, таму што ў гэты момант я ўбачыў велізарны пералом у розумах рабочых, зроблены сілай ленінскай праўды.

Корань змоўк. Я быў узрушаны ад простага, але пераканаўчага расказу старога, які сам усхваляваўся і мне перадаў гэта хваляванне.

— Скажыце, можа, вам яшчэ калі прыходзілася бачыць Леніна? — спытаўся я.

— Не, больш не давялося, — адказаў Корань. — А вось майму сябру, рускаму рабочаму, аднойчы пашчаслівіла гаварыць з Леніным вось так, як я з вамі гавару. Гэты сябар узяў замуж маю зямлячку. Яны жылі ў Ленінградзе, і ў час блакады ён памёр. Калі скончылася вайна, жонка вярнулася на радзіму. Я на днях быў у яе... Кабета перадала мне адну цікавую рэч. — Корань дастаў з кішэні пацёртую запісную кніжачку і ўрачыста прамовіў: — Мой сябар вось у гэтай кніжачцы — ён ніколі не разлучаўся з ёю да апошняга дыхання — расказвае пра Ільіча.

— Прачытайце, калі ласка, — узрадаваўся я.

Мы падклалі галля, ярка ўспыхнуў агонь. Корань разгарнуў запісную кніжачку (папера пажоўкла ўжо, сцерліся асобныя літары) і, запінаючыся, пачаў чытаць:

«Калі Часовы ўрад быў скінуты, Керанскі, які ўцёк, пераадзеўшыся ў жаночую вопратку, дваццаць сёмага кастрычніка павёў красноўскую банду на Петраград, і пад Лугу хлынулі з фронту верныя яго абаронцы, сябры Керанскага.

Ваенна-рэвалюцыйны камітэт у Смольным, спяшаючыся, арганізаваў баявыя атрады для адпору Керанскаму. Але пуцілаўцы, не чакаючы агульнай мабілізацыі Петраграда, самі арганізавалі атрады Чырвонай

гвардыі і проста з тэрыторыі завода паяздамі і пеша пайшлі на Заходні фронт, на Краснае Сяло, на Тайцы, на Лугу, супраць контррэвалюцыйнай арміі.

Некалькі дзён быў я з атрадам пад Лугай. Там, у лясах Лужскіх, прыйшлося нам сустрэцца з атрадамі Керанскага. Мы ім падсыпалі куль, і яны вымушаны былі ўцякаць, як пацукі. Але ў нас не хапала панарам для гармат і не было правадоў і апаратаў для палявой тэлефоннай сувязі, а яшчэ прадбачыліся сутычкі з гатчынскай кераншчынай.

Тады я быў тэрмінова камандзіраваны на Пуцілаўскі завод для неадкладнай дастаўкі на фронт панарам і тэлефоннага абсталявання.

Я вярнуўся ў Піцер, прыняў усе неабходныя меры і, пакуль таварышы рыхтавалі ўсё патрэбнае, дзяжурыў у заводскім камітэце.

Пад трыццатага кастрычніка, прыкладна ў гадзіну ночы, дзяжурыў я з адным таварышам у памяшканні былога вагоннага аддзела Пуцілаўскага завода. На двары было сыра і холадна. Прагаладаліся. На пліце ў маім салдацкім кацялку зварылі бульбу, якую нам прынёс заводскі агароднік. Згатавалі чаю і размаўлялі аб падзеях. Я расказваў пра тое, як мы біліся на фронце.

Раптам аднекуль у суседнім пакоі, які вядзе да выхаду, з'яўляюцца дзве постаці. Адна — у скуранай куртцы, у скураных штанах і ў рускіх ботах, з пісталетам на баку, а другая — сярэдняга росту, у асеннім паліто з паднятым каўняром і кепкай на галаве. Уваходзяць ціха і ідуць да нашага стала.

Мы ў сваю чаргу ідзём да іх насустрач.

Я зараз не помню, хто быў другі, але чалавек у паліто быў Ленін.

Мы трохі захваляваліся, чаму так позна Ільіч на заводзе. Спачатку меркавалі, што якое-небудзь асаблівае здарэнне яго сюды прывяло.

Яны прыйшлі да нас у пакой, і Ільіч пачаў распытваць. Ён задаваў мноства пытанняў, сярод якіх мне запомніліся:

— Які настрой на заводзе? Як рэагуюць рабочыя на захоп улады? Ці ідуць рабочыя на фронт?

Мы яму растлумачылі, што настрой на заводзе добры, вялікая колькасць рабочых паслана ўжо на фронт. Узбраення спачатку не хапала, але зараз дастаткова. Арганізуем дадатковыя атрады. З пульманаўскіх ваго-

наў для перавозкі вугалю са спецыяльнай сталі, якая ёсць на заводзе, зрабілі нядрэнны браняпоезд.

Тут я яшчэ дадаў:

— Бяру неабходныя для фронту панарамы і тэлефонны матэрыял для сувязі і вяртаюся заўтра з імі ў атрад.

Затым прапанавалі мы яму чаю і звараную бульбу:

— Можа быць, хочаце, Уладзімір Ільіч, есці?

Ён ахвотна згадзіўся:

— Не зашкодзіць...

Ён з'еў бульбы з хлебам і выпіў шклянку чаю. І я сказаў бы, што ён быў галодны. Бачыў я — еў ён з ахвотай. Відаць, заняты сур'ёзнымі справамі, не меў часу падумаць пра яду.

Калі мы запыталі яго аб прычыне прыезду, ён сказаў, што вяртаецца з фронту.

— Я заехаў па дарозе даведацца, якое становішча на Пуцілаўскім заводзе.

Мы сядзелі ўчатырох. Паўгадзіны Ільіч з намі гутарыў.

Гэтую гісторыю пра тое, як Ільіч еў бульбу ў пуцілаўскім заўкоме, ведаюць усе пуцілаўцы.

Было ўжо вельмі позна, калі Ільіч, цёпла развітаўшыся з намі, пацiснуўшы нам моцна рукі, пажадаў поспехаў і выказаў упэўненасць у тым, што мы пераможам.

Мы яго праводзілі да выхаду з завода і выпусцілі праз брамку вагоннага аддзела.

Потым мы вярнуліся ў памяшканне заводскага камітэта, поўныя пачуцця асаблівай радасці ад гэтай сустрэчы».

Скончыўшы чытаць, Корань беражна паклаў запісную кніжачку ў кішэню пінжака. Мы былі пад уражаннем падзей даўно мінулых дзён, з якіх пачалася вясна чалавецтва.

— Мірон Андрэевіч! А што вы рабілі ў першыя дні рэвалюцыі? Дзе былі?

— У шмат якіх месцах быў, — успамінаў Корань. — Між іншым, разам з братвой з «Аўроры» ўдзельнічаў у разгроме контррэвалюцыйнай Стаўкі ў Магілёве... Салдаты пры мне на станцыі царскага генерала Духоніна, які спрабаваў наладзіць контррэвалюцыйны мяцеж супраць Савецкай улады, уходалі... З таго часу ў Беларусі асталяваўся... Пацягнула на радзіму...

— Чаму ж вы асталіся беспартыйным?

— У той час я меў адукацыю за народную школу, а калі падвучыўся, шмат у мяне на гэта пайшло часу, дык адчуў, што старэць пачынаю, — уздыхнуў Корань. — Але душою я заўсёды з партыяй... Яна вывела мяне, маіх дзяцей і мой народ у людзі... З нашай сям'і ў шаснаццаць чалавек толькі я са старой і трое ўнукаў беспартыйныя... Добра з партыяй і ў радасці і ў горы... Партыя, як маці, і патрабавальная і ласкавая... Яна ўзняла і тутэйшага чалавека на недасягальную вышыню... — Стары падумаў і заключыў: — Так што беларусы разам з рускімі і ўкраінцамі, з усімі савецкімі людзьмі заўсёды былі і будуць на перадавой лініі агню, такі іх характар...

Корань змоўк і паглядзеў на кацялок, у якім вада напалову выкіпела. Мы пачалі рыхтавацца піць чай. Стаяла цішыня. Толькі калі-нікалі было чуваць, як пляскаліся хвалі, набягаючы на пясчаныя берагі.

*1956*

# Змест

**Гурскі І.**

Г95 Расцвілі вішні: Апавяданні. — Мн.: Маст. літ., 1989. 311 с., [1] л. партр.

ISBN 5-340-00263-2.

Гурский И. Расцвели вишни: Рассказы.

У кнігу Ілы Гурскага (1899—1972) увайшлі лепшыя апавяданні з кніг «Над Нёманам» (1945), «На родных гонях» (1948), «Зары насустрач» (1949), «Неспакойныя характары» (1955), «У вялікай дарозе» (1958), «Родная дарога» (1961).

Рэвалюцыйныя падзеі Вялікага Кастрычніка, подзвіг савецкіх людзей у гады Вялікай Айчыннай вайны, мірныя стваральныя будні роднай рэспублікі — такі тэматычны абсяг апавяданняў пісьменніка.

Г $\frac{4702120201-156}{М\ 302(03)-89}$ БЗ 50—89 ББК84Бел7

Литературно-художественное издание

*Гурский Илья Данилович*

РАСЦВЕЛИ ВИШНИ

Рассказы

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

*Гурскі Ілья Данілавіч*

РАСЦВІЛІ ВІШНІ

Апавяданні

Рэдактар *В. М. Хлебавец.* Мастак *П. В. Калінін.* Мастацкі рэдактар *Л. Я. Прагін.* Тэхнічны рэдактар *Л. М. Шлапо.* Карэктар

ІБ № 3370

Здадзена ў набор 12.12.88. Падп. да друку 07.08.89. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 16,38+0,11 укл. Ум. фарб.-адб. 16,49. Ул.-выд. арк. 16,99. Тыраж 8600 экз. Зак. 2224. Цана 1 р. 40 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Друкарня «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. В. Таўлая, 11.